№ 13 (898) 1 красавіка 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі можа стаць жанчына

Ці гатовыя беларусы паставіць подпісы і прагаласаваць за жанчыну? І ці мае гэта значэнне, калі сапраўдных выбараў няма? Старонка 3

Сяргей Гудзілін

# Амерыканскія вайскоўцы ў Беластоку і Вільні — пагроза для Беларусі?

Андрэй Паратнікаў: «Беларускія ўлады не рэагуюць, таму што ніякай пагрозы гэтыя калоны для нашай бяспекі не ўяўляюць».

У Еўропе працягваюцца вялікія амерыканскія вайсковыя манёўры пад гучнай назвай «Атлантычнае рашэнне». Вучэнні ахопліваюць тэрыторыю ад Фінляндыі да Грузіі. Мэта аперацыі — прадэманстраваць саюзнікам падтрымку і адбіць у патэнцыйнага агрэсара жаданне атакаваць усходні фланг НАТО.

Капітан арміі ЗША Расэл Мур зазначае: «Гэта аперацыя называецца «Рэйд драгунаў». Для нас вельмі важна, што такім чынам мы можам праехаць амаль 2000 км. Драгуны — так трыста гадоў таму называлі пяхоту, якая перамяшчалася на конях. Такую мянушку мае амерыканская кавалерыя — мотапяхотныя часткі, якія сваім ходам вяртаюцца з Эстоніі ў Нямеччыну».

Юліюш Сабак, вайсковы эксперт партала Defence24.pl, кажа: «Аперацыя «Рэйд драгунаў» мае дзве мэты. Па-першае, сігналізуе, што амерыканцы прысутнічаюць, яны бачныя, падтрымліваюць саюзнікаў на ўсходзе. Але ёсць і тактычная мэта. Гэта тэст транспартных і камунікацыйных магчымасцяў амерыканскіх сілаў, бо ў выпадку пагрозы ім прыйдзецца перамяшчацца сухапутным шляхам. Ён нашмат хутчэйшы і больш бяспечны, чым марскі шлях па Балтыцы».

Беласток — толькі адзін прыпынак. 90 бронетранспарцёраў «Страйкер» і некалькі соцень вайскоўцаў едуць далей уздоўж беларускай мяжы, на поўдзень. Гэта частка вялікіх вучэнняў амерыканскай арміі ў Еўропе — «Атлантычнае рашэнне». Манёўры былі прызначаныя пасля агрэсіі Расеі супраць Украіны ў Крыме і на Данбасе.

Чаму няма рэакцыі афіцыйнага Мінска на амерыканскія войскі за 50 кіламетраў ад беларускай мяжы?

Андрэй Паратнікаў, вайсковы эксперт з Belarus Security Blog, кажа, што гэта натуральна: «Беларускія ўлады не рэагуюць, таму што ніякай пагрозы гэтыя калоны для нашай бяспекі не ўяўляюць. Гэта нешматлікія вайсковыя аддзелы, батальён ці два максімум. Яны нават не ўмацоўваюць бяспекі краін, дзе яны размешчаныя. Гэта проста сімвал таго, што ў выпадку дэстабілізацыі ці агрэсіі Злучаныя Штаты гэтым разам убаку ўжо не застануцца. Гэта даказвае і прыбыццё пад Варшаву батарэі «Патрыёт», упершыню з баявымі ракетамі, для ўдзелу ў вучэннях з польскімі вайскоўцамі».


Тысячы людзей віталі амерыканскія войскі ў Беластоку.

Стывен Мал, пасол ЗША у Польшчы, казаў: «Сёння мы дэманструем магчымасць хуткага размяшчэння ракетаў «Патрыёт» у Польшчы, калі будзе такая патрэба. Мы тут, каб паказаць нашым польскім саюзнікам, што амерыканскія гарантыі бяспекі ў рамках НАТО значаць болей, чым словы на паперы. Удзельнікі НАТО ўспрымаюць атаку на аднаго з саюзнікаў як атаку на ўсіх».

**Сяргей Гезгала**

# Што Лукашэнка гаворыць на прадпрыемствах вайскова-прамысловага комплексу

25 сакавіка кіраўнік Беларусі наведаў ААТ «Пеленг», якое спецыялізуецца на оптыка-электронным абсталяванні.

Лукашэнка апошнім часам актыўна стаў наведваць вайсковыя часці, а таксама прадпрыемствы ВПК.

Падчас студзеньскай прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных СМІ Лукашэнка сказаў: «Я трэці раз мадэрнізую войска, я прыстасоўваю яго да таго, каб мы маглі нармальна адказаць. Я зрабіў высновы з украінскіх падзей (войска 500 тысяч па колькасці, а войска няма)».

«Наша Ніва» прасачыла, што казаў Лукашэнка пра бяспеку краіны і мадэрнізацыю войска ад часоў кіеўскага Майдану да сённяшніх дзён.

### Замест механізаваных частак — спецназ

«Можа быць, нам не трэба столькі механізаваных частак, лепш мець такія падрыхтаваныя [сілы спецаперацый]. Можа быць, для Беларусі сілы спецаперацый — перспектыва», — 13 снежня 2013, наведваючы 5-ю асобную брыгаду спецназа ў Мар'інай Горцы (Пухавіцкі р-н).

### Трэба дамовіцца з украінцамі

«Украіну сёння фактычна развалілі. А там абаронка прыстойная. Давайце паспрабуем з украінцамі дамовіцца і папрацаваць разам, каб не зніклі іх мазгавыя цэнтры, інтэлектуальныя, інжынерныя, канструктарскія і, уласна, вытворчасць. Цяпер момант прыдатны, і гэтым момантам трэба скарыстацца», —2 красавіка 2014, наведванне Авіяцыйнага рамонтнага завода (Баранавічы).

### Стварыць зенітны комплекс

24 чэрвеня 2014, наведваючы прадпрыемствы абарончага сектара ў Барысаве, Аляксандр Лукашэнка даручыў стварыць айчынны зенітны ракетны комплекс, які па сваіх характарыстыках будзе не горшы за С-300.

«Нам патрэбна мабільная армія. Мы зрабілі на гэта стаўку. Таму яе трэба абсталяваць мабільнымі машынамі з эфектыўным узбраеннем».

### Мабільныя машыны

8 ліпеня 2014, наведваючы 103-ю асобную гвардзейскай мабільную брыгаду спецназа (Віцебск), Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на тое, што беларускае войска неабходна аснашчаць мабільнымі сродкамі. Лукашэнку былі прадэманстраваны адзін з узораў такіх машын, якія збіраюцца на Мінскім заводзе колавых цягачоў. «Такія машыны нам патрэбныя для павышэння мабільнасці арміі, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — СПА — добра, але не дай бог нас не падстрахуюць са спіны браты, і нам давядзецца весці вайну самім».

### Вывучаем, прыстасоўваемся

«Мы вывучаем канфлікты і, натуральна, не можам не рэагаваць, улічваючы сітуацыю. Прыходзіцца недзе прыстасоўвацца да сітуацыі, мяняць метады ўзброенай барацьбы, калі трэба будзе абараняць краіну», — 19 лютага 2015 падчас выступу перад камандным складам Узброеных сілаў РБ.

### Тэхналогіі заўтрашняга дня

«Краіна толькі тады можа лічыцца бяспечнай і мець перспектывы для існавання, у тым ліку развіцця, калі яна будзе займацца тэхналогіямі заўтрашняга дня», —25 сакавіка 2015 падчас наведвання ААТ «Пеленг».

**Зміцер Панкавец**

### Прыватныя абвесткі

**Менеджар-эканаміст шукае працу**
Менеджар-эканаміст з дзвюма вышэйшымі адукацыямі (эканамічная і культуралагічная) + машынабудаўнічы каледж, з 20 гадовым вопытам па лагістыцы і маркетынгу, па закупцы і продажы складанага абсталявання і 5-гадовым — канструктарам-механікам шукае працу. Тэл. (029) 271-43-26 Зміцер

**Віншуем Аляксандру Баярыну і Вадзіма Пракопчыка** з узяццем шлюбу. Рады і дзетак! Сябры



### Самае чытанае на nn.by за 25—31 сакавіка

1 На Дзень Волі масава выйшла моладзь — АНЛАЙН + ФОТЫ
2 Краўцэвіч: Ліцвінства — выдумка ворагаў, якую падтрымалі дурні
3 Кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі можа стаць жанчына
4 Павел Воля пра беларускую мову: Учащийся — это слухач, не поступивший — шлюхач, безработный — бухач
5 25 Дзён Волі. Фота 1989—2014
6 На жыхара Мінска напаў распаўсюднік сцяжкоў СССР
7 Віктар Сувораў: Мы яшчэ пабачым, як абрынецца Расія
8 У доме другога пілота А320 паліцыя зрабіла важнае адкрыццё
9 «Адчыні гэтыя праклятыя дзверы, Богам прашу!» Апублікаваная стэнаграма размоваў пілотаў А-320
10 У Расіі цкуюць украінца — футбаліста піцерскага «Зеніта»

# Кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі можа стаць жанчына

У 2015 годзе **упершыню ў гісторыі** кандыдатам на пасаду прэзідэнта Беларусі можа стаць жанчына.

У палітычных асяродках разглядалася кандыдатура намесніцы старшыні Таварыства беларускай мовы Алены Анісім, але кампанія «Гавары праўду» схіляецца да іншага выбару — сваёй актывісткі Таццяны Караткевіч.

Менавіта яна найхутчэй і стане нечаканым кандыдатам ад кааліцыі «Народны рэферэндум». На сённяшні момант на ролю кандыдата ад «НР» таксама прэтэндуюць намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў (ён спрабаваў свае сілы ў 2010-м) і прадстаўнік Руху «За Свабоду», палітолаг Алесь Лагвінец, але іх шанцы разглядаюцца як зусім малыя. Фактычна ўсе пагадзіліся на Караткевіч.

«Калі мне давераць, то я гатовая стаць адзіным кандыдатам», — сказала яна ў інтэрв'ю радыё «Свабода», але ўстрымалася ад далейшых каментароў да канца перамоў унутры кааліцыі. «НН» хацела правесці з Таццянай Караткевіч анлайн, але яе каманда адмовіла да наступнага тыдня — пакуль «Народны рэферэндум» канчаткова не вызначыцца са сваім кандыдатам.

«Нехта ж прадказаў, што Лукашэнку пераможа жанчына», - адгнойчы казала Караткевіч.

Таццяна Караткевіч нарадзілася ў Мінску. Ёй 38 гадоў. Па бацьку каранямі сыходзіць у Талачынскі раён, а па маці — у Глускі. У абодвух выпадках — гэта Усходняя Беларусь. Караткевіч вучылася на псіхалога ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Восем гадоў працавала выкладчыкам псіхалогіі ва ўніверсітэтах. Была таксама загадчыцай аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Ленінскага раёна Мінска.

У «Гавары праўду» Таццяна Караткевіч з 2010 года. Займалася там пераважна мясцовымі праблемамі жыхароў Мінска, спрабавала балатавацца ў Мінскі гарсавет. Яе кампанія ў парламент у 2012 годзе была адной з найярчэйшых сярод апазіцыянераў.

Акрамя «Гавары праўду», Караткевіч уваходзіць у Сацыял-дэмакратычную партыю «Грамада». Яна замужам за былым актывістам «Зубра» з Магілёва. Цяпер яе муж працуе аўтаслесарам. Ад першага шлюбу мае дзіця — сына Елісея. Дарэчы, прозвішча Караткевіч таксама засталося ад першага мужа.

Заангажаваны ў палітычныя працэсы сацыёлаг, які прасіў не называць яго, ахарактарызаваў «Нашай Ніве» Караткевіч як «пазітыўнага чалавека з высокім інтэлектуальным патэнцыялам». Аднак яна зусім невядомая грамадству, нават палітычным актывістам, дадаў ён. У той жа час тэарэтычна жанчына як альтэрнатыва Аляксандру Лукашэнку мае патэнцыял аб'яднаць пратэставыя галасы.

Акрамя Караткевіч, ад апазіцыі на выбары, імаверна, пойдзе даўні працаўнік Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Яны могуць вызначыць, хто з іх стане адзіным кандыдатам або іншую супольную тактыку пазней.

**Сяргей Гезгала, Зміцер Панкавец**


Сяргей Гудзілін

# Апазіцыя — Лазавіку: Як праяўляць актыўнасць у тым, чаго няма?!

Адсутнасць адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года моцна **непакоіць Цэнтрвыбаркам**.

Маўляў, неяк больш актыўна трэба апазіцыі ўключацца ў падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў.

«Выбары для выбарцаў тады становяцца цікавымі, калі агучваюцца розныя пункты гледжання, калі ў іх бяруць удзел розныя палітычныя сілы», — скардзіцца на пасіўнасць апанентаў улады сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

Тое, што ў апазіцыі з абраннем адзінага кандыдата праблемы, даўно не сакрэт. Прычым праблемы гэтыя ў іх ужо назіраюцца не першую кампанію. Але няўжо яны і сапраўды нічога «перадвыбарчага» не робяць за паўгода да галасавання?

«А як праяўляць актыўнасць у тым, чаго няма?!» — абурaецца ў адказ старшыня партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін. І вінаваціць у выбарчай пасіўнасці апазіцыі... ЦВК!

Сяргей Калякін: «Ёсць сумесная заява партый, якую мы ім днямі накіруем, дзе пералічана, што павінны зрабіць улады, каб у краіне сапраўды былі выбары. Найперш яны павінны стварыць умовы для таго, каб галасы на самай справе лічылі і каб апазіцыя была дапушчаная ў выбарчыя камісіі. Сёння гэтага ў краіне няма, а калі няма, то няма і выбараў. А калі няма выбараў, то ў чым праяўляць актыўнасць? Яны павінны праявіць актыўнасць са свайго боку!»

Апазіцыйны лідар прыхільнікаў камуністычных ідэй сцвярджае: выбарчае заканадаўства ў нас, у прынцыпе, нармальнае. Праблема ў тым, што яно не выконваецца. І звяртаецца да дэпутатаў парламента, у якіх 2 красавіка пачынаецца веснавая сесія: прыміце на ёй адпаведныя заканадаўчыя акты, якія абавяжуць раённыя ўлады ўключаць апазіцыянераў у склад выбарчых камісій, а выбарчыя камісіі — сумленна лічыць галасы.

**«Еўрарадыё»**

**Цытата**



**Ярмошына: Я пакінула мужам кватэры**

«Ніхто не заўважыў мой развод у Мінску, хоць я ўжо была медыяперсонай. А мужоў сваіх я кватэрамі забяспечыла. Я сышла, як сыходзяць мужыкі. Першы раз я кватэру пакінула мужу ў Калінінградзе. Другі раз я разумела, што чалавеку трэба недзе жыць, таму я прадала кватэру і купіла яму аднапакаёвую», — распавяла кіраўніца ЦВК у эфіры праграмы «Выхад ёсць» на тэлеканале Беларусь-1.

# Парашэнка адправіў у адстаўку Каламойскага

Указ Парашэнкі пра адстаўку Каламойскага з'явіўся **каля 4-й ранку**.

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка падпісаў указ аб адстаўцы Ігара Каламойскага з пасады кіраўніка Днепрапятроўскай вобласці. Паводле паведамлення, дакумент Парашэнка падпісаў падчас асабістай сустрэчы з Каламойскім, які сам папрасіў аб звальненні.

«Мы павінны забяспечыць мір, стабільнасць і спакой. Днепрапятроўшчына павінна заставацца бастыёнам Украіны на ўсходзе, абараняць мір і спакой грамадзян», — цытуе Пятра Парашэнку яго прэс-служба.

Кажучы пра прычыны свайго сыходу, Каламойскі заўважыў, што «сітуацыя зайшла занадта



далёка». «Наступным крокам магло быць абвінавачванне мяне ў сепаратызме, і я прыняў гэта рашэнне [аб адстаўцы], каб супакоіць сітуацыю і паказаць краіне, што я не трымаюся за гэтую пасаду, калі грамадства мяркуе, што я павінен сысці».

Паводле яго слоў, ён «заўсёды лічыў сябе больш бізнэсменам, чым палітыкам».

Каламойскі — украінскі алігарх, які ўзначаліў Днепрапятроўск у складаныя дні расійскай агрэсіі і здолеў задушыць мясцовы сепаратысцкі рух. Аднак Каламойскі спрабаваў захапіць кантроль над важным для Украіны прадпрыемствам «Укрнафта». На мінулым тыдні алігарху была абвешчана вымова за абразу журналіста з выкарыстаннем нецэнзурнай лексікі.

Грамадзянская супольнасць Украіны патрабуе зменшыць уплыву алігархаў і вяртання незаконна здабытай імі маёмасці пад кантроль дзяржавы.

**СГ**

# Румаса пераабралі адзінагалосна

А вось **Павел Якубовіч** сышоў з кіраўніцтва беларускага футбола.

Прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Беларускай федэрацыі футбола. У выбарах старшыні не было ніякай інтрыгі. Адзінай кандыдатурай быў сённяшні кіраўнік БФФ, старшыня праўлення «Банка развіцця» Сяргей Румас **(на фота)**. За былога віцэ-прэм'ера прагаласавалі адзінагалосна.

Пэўныя змены адбыліся ў выканкаме БФФ. Напрыклад, пакінуў «заканадаўчы орган» беларускага футбола славуты трэнер Юрый Пунтус. Не абіраўся на новы тэрмін і рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч.

Дарэчы, адметна, што на выбарах 2011 года Якубовіча спачатку не абралі ў выканкам БФФ. У рэйтынгавым галасаванні ён набраў недастатковую колькасць галасоў, але



паколькі некаторыя асобы, напрыклад як трэнер Віктар Ганчарэнка, адмовіліся ўваходзіць у выканкам БФФ, Якубовіч усё ж трапіў у спіс людзей, якія вырашаюць футбольную будучыню краіны.

Варта адзначыць, што з новых людзей у выканкам БФФ увайшоў старшыня праўлення «Беларусбанка» Сяргей Пісарык, а таксама начальнік галоўнага фінансавага ўпраўлення Мінгарвыканкама Аляксей Афанасьеў/

**ЗП**

# На Дзень Волі масава выйшла моладзь

Па вуліцах Мінска прайшло **святочнае шэсце** пад нацыянальнымі сцягамі.

Сотні маладзёнаў, якія гарэзліва падскоквалі пад вокліч «Хто не скача, той маскаль!», — такога падчас масавых акцый у Мінску раней не было. Гэтую жартаўлівую фразу беларусы пазычылі ва ўкраінцаў. А расійская прапаганда ўжо паспела ўчапіцца за яе: маўляў, ідзе падрыхтоўка Майдану.

Колькі чалавек выйшла на Дзень Волі? Аптымісты налічылі ў шэсці да 2000 чалавек, песімісты казалі пра 1000 дэманстрантаў.

Каб зменшыць патэнцыйную колькасць мітынгоўцаў, Мінгарвыканкам дазволіў праводзіць акцыю а 15-й гадзіне, пасярод працоўнага дня. Маўляў, у папярэднія гады гараджане скардзіліся, што вуліцы перакрытыя ў гадзіну пік.

Але і летась, і цяпер дэманстранты не заміналі дарожнаму руху. Натоўп не выходзіў на праезную частку і чакаў зялёнага святла на скрыжаваннях. А кіроўцы вітальна адгукаліся клаксонамі сваіх аўто.

Лозунгі леташняга шэсця на Дзень Волі не згубілі актуальнасць і цяпер. Гэта захаванне незалежнасці Беларусі і салідарнасць з Украінай. Дэманстранты рушылі па традыцыйным маршруце ад Акадэміі навук пад бел-чырвона-белымі і жоўта-блакітнымі сцягамі. «Жыве Беларусь!» і «Слава Украіне» — вось два самыя папулярныя вoклічы.

Многія ўдзельнікі акцыі апранулі вышыванкі, смялейшыя выйшлі на шэсце з нацыянальнымі сцягамі і самаробнымі плакатамі. «Што за бульба без укропа?» — напісаў рытарычнае пытанне мінчук Леанід Кулакоў.

Бел-чырвона-белая сімволіка муляла вока спецназаўцам. «З парку ніхто не выходзіць з «парцянкамі», — раздаваліся зняважлівыя загады ў рацыях. Гэткай хамскай фразай міліцыянты называлі нацыянальныя сцягі і прымушалі згортваць іх на выхадзе з парку Дружбы народаў. А пасля ганебна бегалі па тралейбусах, каб высачыць дэманстрантаў, якія адмовіліся выконваць незаконнае патрабаванне. Некалькі чалавек, у тым ліку былы палітвязень Эдуард Лобаў, былі затрыманыя, аднак неўзабаве іх выпусцілі без складання пратаколаў.

Арганізатары вырашылі не праводзіць мітынг на плошчы Бангалор. «Людзям надакучыла слухаць пустыя прамовы палітыкаў, — патлумачыў адзін з арганізатараў акцыі, актывіст руху «За свабоду!» Мікіта Семяненка. — Гэта свята, а не мітынг».

Галасы тых, хто заклікае сустракаць 25 Сакавіка ў сяброўскай кампаніі, гучаць усё часцей. Удзельнікі Дня Волі пасля дэманстрацыі разышліся па кавярнях і рэстаранах Мінска, каб напоўніцу пагуляць у гадавіну дня нараджэння Беларусі.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Шэсце рушыла пад бел-чырвона-белымі і ўкраінскімі сцягамі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Год за годам Дзень Волі прысвячаецца захаванню незалежнасці Беларусі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Маніфестанты ўпрыгожвалі адзенне нацыянальнай сімволікай. Студэнткі Дар'я (злева) і Лера расказваюць, што набылі стужкі з беларускім арнаментам у ЦУМе.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Балонікі з «Пагоняй» таксама трапілі пад забарону. Выходзіць з імі з парку Дружбы народаў было забаронена.


НАСТАСЯ ХРАЛОВІЧ

Брытанец Оўэн Браўн прыйшоў выказаць салідарнасць з беларусамі. Сваю вышыванку ён набыў у Івана-Франкоўску ў знак падтрымкі Украіны.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Жартаўлівае пытанне ўпадабалі ўкраінскія інтэрнаўты.

# Камікадзэ з Дзюсельдорфа

Пілот нямецкай авіякампаніі падазраецца ў наўмысным **забойстве 149 чалавек**.

Сувязь з самалётам, які выконваў рэгулярны рэйс з іспанскай Барселоны ў нямецкі Дзюсельдорф, нечакана абарвалася ў Альпах. Праз некаторы час жудасныя чаканні пацвердзіліся: дробныя аскепкі «Аэробуса А320» былі знойдзеныя ў гарах непадалёку ад французскай Ніцы. Усе 149 пасажыраў і членаў экіпажа загінулі.



### Замкнёныя дзверы

Катастрофа рэйса авіякампаніі «Германвінгс» (адгалінаванне нямецкай «Люфтганзы») паставіла экспертаў у ступар. Абсалютна рабочы самалёт з дасведчанымі пілотамі чамусьці пачаў зніжацца праз некалькі хвілін пасля набору вышыні і праз 10 хвілін уткнуўся ў Альпы на поўнай хуткасці. «Чорная скрыня», якую знайшлі ратавальнікі, праліла святло на кашмарныя апошнія хвіліны палёту.

З апублікаванай стэнаграмы стала зразумела, што камандзір экіпажа Патрык Зандхаймер выйшаў з кабіны пілотаў у прыбіральню. Аднак вярнуцца за штурвал ён не змог. Другі пілот Андрэас Любіц заблакаваў дзверы і, не кажучы ні слова, — на запісе чуваць толькі роўны подых Любіца — накіроўваў самалёт у горы. Зандхаймер адчайна грукаў у дзверы і нават спрабаваў выламаць іх нейкім цяжкім прадметам. «Адчыні гэтыя праклятыя дзверы, богам прашу!» — маліў Зандхаймер. Апошнім гукам на запісе стаў крык пасажыраў...

**Пілоты-самагубцы**

Любіц — не першы пілот, хто падазраецца ў самагубстве з дапамогай самалёта і забойстве пасажыраў. У 1982 пілот японскай авіякампаніі накіраваў самалёт у Такійскі заліў і забіў 24 пасажыраў са 150 чалавек на борце.

Суіцыд пілота стаў прычынай катастрофы рэйса кампаніі «Сілк Эйр» з Джакарты ў Сінгапур у 1997. Тады разам з пілотам загінула яшчэ 96 пасажыраў.

Падазраецца, што намераныя дзеянні сталі прычынай катастрофы рэйса егіпецкай авіякампаніі ў 1999, калі загінула 217 пасажыраў, аднак дакладная прычына катастрофы не высветленая дагэтуль.

Нарэшце, рэйс «Мазамбікскіх авіяліній» пазалетась разбіўся ў Намібіі праз тое, што пілот свядома ўвёў самалёт у крутое зацяжное піке.

### Цёмнае мінулае

Зразумеўшы, што хутчэй за ўсё Любіц мэтанакіравана разбіў самалёт, следства пачало правяраць мінулае пілота. Водгукі былі спрэс пазітыўныя. 27-гадовы пілот з юнацтва быў сябрам клуба планерыстаў. Нейкі час ён папрацаваў сцюардам, а пасля пайшоў у школу пілотаў «Люфтганзы». Пра шкодныя звычкі Любіца таксама не ведалі: ён актыўна займаўся спортам, бегаў марафоны.

Глыбейшае расследаванне паказала адваротны бок жыцця пілота. Выявілася, што ён пакутаваў на цяжкую дэпрэсію. Любіц лячыўся ад суіцыдальных схільнасцяў, але да таго, як стаў пілотам.

Што магло стаць прычынай дэпрэсіі цяпер? Паводле адной з версій, Любіц перажываў няўдачы ў асабістым жыцці. Ён жыў з 26-гадовай настаўніцай, якая зацяжарыла.

Аднак перад гэтым Любіц адначасова сустракаўся са сцюардэсай. Пара рассталася, і пілот нібыта цяжка перажываў разрыў і нават планаваў падарыць сцюардэсе «Аўдзі» ў спробе аднавіць стасункі.

Іншай версіяй пагаршэння душэўнага здароўя Любіца магла стаць яшчэ адна хвароба. Магчыма, Любіц хварэў на адслаенне сятчаткі, якое магло паставіць крыж на яго лётнай кар'еры. Таксама ў яго доме знайшлі парваны бальнічны на дзень палёту. Пракуратура Дзюсельдорфа лічыць, што Любіц наўмысна схаваў інфармацыю пра хваробу ад наймальніка. Падазрона і тое, што падчас навучання ў школе пілотаў ён зрабіў перапынак на паўгода. Чаму? У «Люфтганзе» не кажуць.

## Другі пілот Андрэас Любіц заблакаваў дзверы і, не кажучы ні слова, накіраваў самалёт у горы

### Фатальны замок

Па іроніі лёсу, трапіць у кабіну капітану Зандхаймеру перашкодзіла сістэма, прыдуманая, каб абараніць самалёты ад трагедыі. Неўзабаве пасля тэрактаў 11 верасня ў ЗША самалёты сталі аснашчаць супрацьуздымнымі дзвярыма, непрыступнымі для ўгоншчыкаў.


Андрэас Любіц.

«Аэробус» таксама меў узмоцненыя дзверы з замком, які адкрываецца і закрываецца пілотам. На выпадак аварыі прадугледжана магчымасць адчыніць дзверы ў кабіну з салона, набраўшы код на спецыяльнай панэлі. Аднак калі пілот пераводзіць выключальнік дзвярэй у пазіцыю «замкнёна», кодавая панэль блакуецца на 5 хвілін. Відаць, Любіц блакаваў дзверы неаднаразова, бо інакш капітан змог бы заняць сваё месца і перахапіць кіраванне.

З нагоды катастрофы авіякампаніі пачалі спешна дадаваць у інструкцыі правіла «двух у кабіне». То бок цяпер падчас палёту ў кабіне пілота абавязкова мусяць знаходзіцца два чалавекі. Калі адзін з пілотаў выходзіць, у кабіну павінен зайсці бортправаднік ці член зменнага экіпажа і заставацца там да вяртання пілота.

**Кірыла Хілько**

# Памёр Уладзімір Лялькоў



30 сакавіка не стала Уладзіміра Кандратавіча Лялькова. Ён нарадзіўся ў 1918 у Рагачове. Падчас Другой сусветнай вайны быў дырэктарам Мар'інагорскай гімназіі.

Быў арыштаваны ў 1947 годзе. Адбываў высылку ў Інце (Комі АССР). Вызвалены ў 1956 годзе. У рэабілітацыі адмоўлена. Па сабе пакінуў успаміны.

Да канца жыцця Уладзімір Лялькоў заставаўся прыхільнікам нацыянальнага руху. Унук спадара Уладзіміра Ігар Лялькоў — намеснік старшыні Партыі БНФ, вядомы ў краіне палітолаг.

**ЗП**

# Шмат шуму з нічога

**Ці была забастоўка** у калгасе пад Хоцімскам?



Тыдзень таму шэраг беларускіх СМІ (у тым ліку і «Наша Ніва») передрукавалі незвычайную для нашай краіны навіну: у Хоцімскім раёне механізатары зладзілі страйк і дамагліся звальнення старшыні калгаса. Але, як высветлілася, у рэальнасці ўсё было не зусім так.

Мясцовы грамадскі актывіст Валерый Каранкевіч, былы першы намеснік старшыні Хоцімскага райвыканкама, сцвярджаў, што 17 сакавіка механізатары калгаса «Кастрычнік-Бярозкі» адмовіліся выязджаць на працу, пакуль не будзе заменены старшыня Мікалай Саўчанка. Той нібыта груба ставіўся да сваіх падначаленых.

Жыхары Бярозак пацвярджаюць: Саўчанка сапраўды быў жудасным кіраўніком. У «Кастрычніку» ён прапрацаваў трохі больш за год, і паспяховым гэты час назваць нельга. Заробкі ўпалі, людзі, асабліва ўзімку, атрымлівалі капейчыны. І наладжваць зносіны з падначаленымі былы старшыня так і не навучыўся: абразы і грубасць былі звычайнай справай.

«У калгасе заробак вельмі малы, нават мінімалку не заўсёды атрымлівалі, — кажа Юлія, дыспетчарка СВК. — Зараз пачалася пасяўная, я працую па 12 гадзін, без выхадных. Зарплата — 1,5 мільёна. Да таго ж, Саўчанка — хамло. Пастаянна былі крыкі, абразы. У яго павагі не было ні да каго, ён нікога не слухаў».

Па словах Юліі, кіраўнік з Саўчанкі быў аніякі: кармоў не хапала, скаціна дохла, на вакцыну грошай не было, а старшыня абвінавачваў ва ўсім ветэрынараў. Прэтэнзіі да былога старшыні ёсць і ў тых самых механізатараў.

«Заробак узімку — 300 тысяч. Пыталіся, як жыць, яшчэ ж дзіця вучыцца, яго карміць... Саўчанка адказваў проста: няма грошай, і ўсё», — распавядае адзін з іх.

Прэтэнзіі ў работнікаў калгаса былі, але не больш за тое. «Напісалі там х***ю нейкую... Механізатары як працавалі, так і працавалі. Не было ніякіх забастовак», — абурэцца Галіна Міхайлаўна, галоўны аграном. Іншыя вяскоўцы пацвярджаюць — людзі абурацца, скардзіліся. Але каб на працу не выходзілі, такога не было.

Насамрэч Саўчанка звольніўся па ўласным жаданні. Тады ўжо пасаду старшыні СВК прапанавалі Мікалаю Кокатаву, які некалькі гадоў таму ўжо займаў яе. Пасля адбыўся планавы сход, на які і прыехалі прадстаўнікі райвыканкама, каб прадставіць новага старшыню. Вось і ўся справа.

Пры гэтым праблемы, якія існуюць у калгасе, ніхто не адмаўляе, нават Кокатаў прызнае, што прадпрыемства знаходзіцца не ў найлепшым стане, а Саўчанка не ўмее працаваць з людзьмі. Але былога старшыню ён падтрымлівае. Кажа, той зразумеў, што працаваць не атрымліваецца і «зрабіў як мужык».

Сам Мікалай Саўчанка з неахвотай, але пагадзіўся пагутарыць. Бачна, што сякая-такая крыўда ў яго засталася. Пра СВК ён кажа так: «Народ хоча працаваць менш, а зарабляць больш». А праблемы тлумачыць па-рознаму: не закупілі ўгнаенне, не падрыхтавалі кармоў, падтрымка дзяржавы зменшылася...

Але пра сваё звальненне не шкадуе, тлумачыць яго са звычайным беларускім фаталізмам: «Як выйшла, так выйшла». А ў адказ на пытанні пра страйк Саўчанка толькі пасміхаецца.

«Не было ніякага страйку, проста нехта напісаў, а ўсе паверылі. Увогуле, каб у нас менш верылі людзям, то было б лепш».

P.S. У сваю чаргу хоцімскі актывіст Каранкевіч працягвае сцвярджаць, што страйк быў. «У нас проста людзі запалоханыя», — каментуе ён.

**Улад Швядовіч, Хоцімск—Мінск**

# Як Саша-мульцік забіў суседку, а труп вывез на сметнік

А праз які тыдзень у п'яным чадзе **расправіўся з прыяцелем**.

Гомельскі абласны суд прыгаварыў да пажыццёвага зняволення 38-гадовага жыхара вёскі Бязуеў Рэчыцкага раёна. За два забойствы, здзек з трупа і крадзеж.

### Паленам супраць грабляў

Першае забойства мо нават і засталося б таямніцай. Але забойца сам вырашыў прызнацца. Калі ўжо «накрылі» з першым.

У красавіку 2014 Аляксандр нападпітку пасварыўся з 74-гадовай суседкай. Нібы тая выкідала смецце на яго агарод. Кабета агрэла п'янага суседа граблямі. А ён схапіўся за палена: некалькі разоў ударыў па галаве. Калі зразумеў, што яна нежывая, заматаў труп у цэлафан і вывез на сметнік. А там укінуў у канаву з вадой. Пенсіянерку ніхто не шукаў.

Ужо ў пачатку мая, праз які тыдзень пасля першага забойства, Аляксандр выпіваў з 40-гадовым прыяцелем. Пасварыліся. А там у п'яным чадзе і забіў яго: нажом і кулакамі. Труп амаль тыдзень ляжаў у кладоўцы, у той час як у хаце не сціхала п'яная гульба. Як п'янка скончылася, гаспадар вывез труп роварам на могілкі: меркаваў там пазней яго пахаваць. Але не паспеў — прыйшла міліцыя. А дома — кроў. І прызнаўся ў забойстве. Затым яшчэ расказаў пра суседку.

### «Што я скажу яго сыну?»

У судовай зале Рэчыцы, дзе праходзіў суд, сабраліся ў чаканні апошняга слова і прысуду аднавяскоўцы. Відаць, што сваякі абвінавачанага і яго ахвяр не вараюць паміж сабой, толькі час ад часу ўзгадвалі адзін аднаму старыя крыўды. Сыходзяцца на думцы, што Сашка-мульцік (такую мянушку далі яму аднавяскоўцы) адзін наўрад ці забіў бы і схаваў целы ахвяр. «Ну як ён мог адзін заматаць у цэлафан, пакласці на веласіпед і завезці цела старой на сметнік? Нехта дапамагаў, а ён не прызнаецца. Я яму казала: навошта ты ўсё бярэш на сябе? Узяў на сябе — ну і памірай зараз!» — уздыхаюць пенсіянеркі. Гавораць, што і «тых» шкада, і «гэтага».

Відаць, не часта вяскоўцам даводзіцца сутыкацца з «галінамі» ўлады, бо раз-пораз пачынаюць гаварыць з месца, задаваць пытанні абвінавачанаму і суду. Была на судзе і былая жонка Аляксандра Любоў, прасіла слова, але ёй адмовілі. «Чаму мне нельга сказаць? Я яму хацела пра сына нагадаць! Хай раскажа ўсю праўду! Што я сыну скажу, што яго бацька — забойца? Я ў гэта не веру, не ён адзін там быў, там яны ўсе разам пілі».

### «Прабачце, Рыгораўна…»

У апошнім слове Аляксандр прасіў ва ўсіх прабачэння. Нагадваў: «Мы з вамі жылі ў адной вёсцы, у нас жа ўсё было нармальна! Я не небяспечны чалавек! Прабачце мне і вы, Рыгораўна!» — звярнуўся ён да маці забітага прыяцеля. Тая крычала, што не даруе. «Ну, тады, Рыгораўна, улічыце гэта на будучыню, бо ў малітве гаворыцца: «І прабач ім грахі іх, як і яны прабачаюць даўжнікам сваім».

«Не я забіў», — не мог патлумачыць ён, як усё атрымалася. — «А хто тады — дамавік?»

У чаканні прысуду ён хадзіў па клетцы туды-сюды ці сядзеў на лаўцы, абхапіўшы галаву рукамі.

«Прысудам суда абвінавачаны прызнаны вінаватым. У наўмысным супрацьпраўным пазбаўленні жыцця другога чалавека (забойстве) заведама састарэлай асобы, з асаблівай жорсткасцю, асобай раней судзімай за забойства і яму прызначана пажыццёвае зняволенне», — вымавіла суддзя.


Юлія Шымкевіч

Яго таксама прызналі вінаватым у крадзяжы і здзеку з трупа. На карысць сваякоў забітых ён павінен выплаціць 150 мільёнаў рублёў.

Пасля прысуду на калідоры палалі жарсці. «Ты што казкі расказваеш? Табе сына шкада? А чаму ты не бачыла, што ён тыдзень мёртвы, у кладоўцы? Ты ж разам з імі ўсімі і піла!» — не супакойвалася адна кабета.

«Што ты гаворыш, ды хіба ў цябе сын ад яго? У цябе не ад яго сын!» — выводзіла на чыстую ваду другая. У калідоры агучваюцца розныя сакрэты з жыцця жыхароў вёскі Бязуеў. Іншая пенсіянерка кідае, што «ў той вёсцы няма ніводнага нармальнага чалавека, яны ўсе там алкаголікі, гоняць самагонку і п'юць!».

**Юлія Шымкевіч**

# Вылецела з машыны на хаду і ўжо не змагла падняцца

**П'яны кіроўца** сваёй віны не прызнаў.

У Нароўлі асудзілі 22-гадовага хлопца. Яго адправілі на пяць гадоў у калонію ва ўмовах пасялення. Прычынай такога прысуду ў чарговы раз стала гарэлка — сеў нападпітку за руль і пакалечыў дзяўчыну.

Трагедыя здарылася 4 жніўня 2014. 17-гадовая Дар'я Мазурэнка з сяброўкай вярталася дамоў пасля сустрэчы з былымі аднакласнікамі. Толькі скончылі школу, паступілі ва ўніверсітэты — сабраліся, каб падзяліцца навінамі. Сама Дар'я рыхтавалася да навучальнага года на юрфаку Гомельскага ўніверсітэта. Але па дарозе каля дзяўчат спыніўся знаёмы на «Аўдзі», прапанаваў падвезці. У машыне хоць і не хапала свабодных месцаў, але пацісніліся. Толькі кіроўца не дамоў павёз дзяўчат, а



пачаў ганяць па горадзе, хоць быў нападпітку.

Дзяўчаты прасілі спыніцца, каб выйсці. І на плошчы Леніна кіроўца спыніўся. А калі Дар'я адчыніла дзверцы, рэзка паехаў назад. Дзяўчына вывалілася з машыны. Пасля падзення яна не страціла прытомнасць, але раптам у яе анямела цела — і падняцца сама не змагла. У выніку 22 дні правяла ў рэанімацыі. Перанесла некалькі аперацый. Але паднясца на нogі не можа і да сёння. Яна атрымала закрыты асколачны пранікаючы пералом пятага шыйнага пазванка са сцісканнем спіннога мозгу. Цалкам былі паралізаваныя рукі і ногі.

У лютым дзяўчыну выпісалі з бальніцы, яна знаходзіцца дома. Цяпер назіраецца станоўчая дынаміка: Даша можа сядзець і крыху варушыць рукамі. Але патрэбна добрая рэабілітацыя. Родныя дзяўчыны шукаюць магчымасці адвезці яе ў Ізраіль на лячэнне. Спецыялісты раяць чатырохмесячную рэабілітацыю, якая будзе каштаваць каля $270 тысяч. Цяпер родныя каторы месяц збіраюць грошы.

...А кіроўца «Аўдзі» на судзе не прызнаў сваёй віны.

На карысць пацярпелай хлопец павінен сплаціць 508 мільёнаў рублёў. Родныя ж прасілі 3 мільярды рублёў. Лячэнне ў Дашы яшчэ будзе доўгім і дарагім.

**Кастусь Матушыч**

**Ахвяруйце на лячэнне!**

Грошы на лячэнне Дар'і можна пералічыць праз дабрачынныя рахункі.

ААТ «АСБ Беларусбанк», філіял 300/155, МФА 151501661, УНП 400207877, Адрас: Гомель, пр. Кастрычніка, 48. Код філіяла: 661, транзітны рахунак 3819382100255. Прызначэнне плацяжу: для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Мазурэнка Людмілы Леанідаўны для лячэння Мазурэнка Дар'і.

Беларускія рублі. Транзітны рахунак 3819382100255, на дабрачынны рахунак №000003 у аддзяленні №300/155.

Даляры, еўра. Транзітны рахунак 3819382100255, на дабрачынны рахунак №000004 у аддзяленні №300/155.

Расійскія рублі. Транзітны рахунак 3819382100255, на дабрачынны рахунак №000002 у аддзяленні №300/155.

# Адразу тры следчыя СК асуджаны за хабар на гіганцкія тэрміны

Выявілася, што яны **нават не прымалі прысягу.**

У Мінску асудзілі трох былых супрацоўнікаў Следчага камітэта. Гэта падпалкоўнік юстыцыі Дзмітрый Мацкевіч, капітан юстыцыі Дзмітрый Контусь і капітан юстыцыі Генадзь Супінскі.

Следчых вінавацілі ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і атрыманні хабару. Контусь і Супінскі, паводле следства, яшчэ і адмазвалі абвінавачаных ад крымінальнай адказнасці за грошы.

Паводле рашэння суда, Мацкевіч асуджаны да 13 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Контусь — да 12, Супінскі — да 7. Ва ўсіх канфіскуюць маёмасць. Усе былыя следчыя пазбаўленыя званняў. Хабарадавальнік, жанчына, асуджаная на тры гады абмежавання без накіравання ў выпраўленчую ўстанову.

Сімвалічны факт быў выяўлены ў судзе: пры пераводзе з міліцыі на службу ў Следчы камітэт абвінавачаныя не давалі прысягі. Суддзя вынес з гэтай нагоды прыватнае вызначэнне ў адрас старшыні Следчага камітэта аб недапушчэнні падобных парушэнняў у будучыні.

**Паводле «Ежедневніка»**

## Сцісла

### Падлетка выратавалі ад суіцыду

12-гадовы хлопчык у Брэсце вырашыў скончыць жыццё самагубствам і гатовы быў скочыць з балкона дзявятага паверха. На дапамогу выклікалі ратавальнікаў. Супрацоўніку МНС удалося размовай адгаварыць падлетка ад неабдуманага кроку.

### «Наганяў» на 800 мільёнаў

У Смаргоні выкрылі 36-гадовага мужчыну, які летась увёз з Літвы не менш за 8 машын і перапрадаў іх у Мінску і Смаргоні. Ад незаконнай дзейнасці атрымаў прыбытку 865 мільёнаў рублёў. Цяпер можа адправіцца за краты на 5 гадоў.

### Перакуліўся аўтобус

Здарэнне адбылося вечарам 27 сакавіка ў Івацэвіцкім раёне. Аўтобус Neoplan, які рухаўся па маршруце Мінск—Пінск, з'ехаў у кювет і перакуліўся. У аўтобусе знаходзіліся 56 пасажыраў. Трое з іх (1987, 1988 і 1996 гадоў нараджэння) шпіталізаваныя. Паводле слоў кіроўцы, прычынай ДТЗ сталі праблемы са стырном.

### Тры смерці ў адным аўто

Тры чалавекі загінулі 29 сакавіка ў аварыі паблізу вёскі Камароўка ў Брэсцкім раёне. На 24-м кіламетры пад'езду да мяжы Украіны (Тамашоўка) «Аўдзі 100» з'ехала з праезнай часткі налева і апынулася ў канале. Мужчыны 37 і 29 гадоў і 27-гадовая жанчына загінулі на месцы. Па версіі следства, кіроўца не даў рады кіраванню на закругленні дарогі, якое пазначана дарожным знакам «Небяспечны паварот».

**КМ**


SK.GOV.BY

# Зміцер Багаслаўскі: Мы ніфіга не богам пацалаваныя

З паспяховым драматургам гутарыць Вольга Гарапучык.

**«Наша Ніва»: Маё жаданне з табой паразмаўляць узнікла пасля водгуку ў «НН» на «Тату». Скажы, гэты спектакль — дзіця твайго натхнення ці пісаўся на замову?**

**Зміцер Багаслаўскі:** Першая і правільная назва гэтай п'есы: «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў», пісалася п'еса доўга і гэтак жа доўга прапрацоўвалася. Яна стала маім асабістым выпрабаваннем, бо мне нецікава пісаць пра рэчы, якія я ведаю. Мне істотна разабрацца ў пытаннях, якія паўстаюць у маіх п'есах.

**«НН»: Што было пунктам невядомасці, які ты даследаваў у «Тату»?**

**ЗБ:** Ад 2002 года я жыву не з бацькамі, яны за 2200 км ад Мінска. Таму, напэўна, сум па бацькоўскім доме і разбор бацькоўскай любові натхнілі на гэтую працу. Гэта не аднапланавая п'еса, і ўздымаецца там не адно пытанне.

### Хацелася б, каб усё было канфліктней

**«НН»: Праблематыка адносін бацька-сын, мужчына-жанчына падымаецца ў большасці тваіх п'ес. Цябе гэта так турбуе?**

**ЗБ:** Ёсць тры галоўныя тэмы: жыццё, смерць і каханне. Больш пісаць няма пра што і няма дзеля чаго. Усё будуецца на адносінах. Я шчыра не разумею, чаму сучаснае грамадства існуе ў стане бесканфліктнасці.

**«НН»: Што ты маеш на ўвазе?**

**ЗБ:** Мы не спрачаемся, хаваем свой пункт гледжання па большасці пытанняў. Мы ж жывём па прынцыпе «абы ціха».

**«НН»: Але, наколькі я ведаю, ты сам у жыцці чалавек неканфліктны...**

**ЗБ:** Цішэй, варта падзяляць гэтыя паняцці. Бо ёсць грамадзянская пазіцыя, якая мусіць быць, а ёсць проста ўзаемадзеянне з іншымі. Адна справа сказаць: «Хопіць маюкацца ў грамадскім месцы!», а іншая — сказаць начальніку нешта ў твар. Мне, як чалавеку, які імкнецца пісаць, хочацца канфлікты назіраць. Мне б хацелася, каб усё было канфліктней.

**«НН»: Якія тэмы могуць выклікаць цябе на канфлікт?**

**ЗБ:** Ну, калі цябе штосьці крыўдзіць, ты ж не можаш проста адмаўчацца і праглынуць. Калі ты маеш свой пункт гледжання, ты ж мусіш яго адстойваць. Ты не мусіш яго даказваць, але паспрабаваць растлумачыць, чаму ты лічыш менавіта так, — ты абавязаны. Тут не будзе правільным рэціраваца. Вось з той жа Украінай...

**«НН»: Я чакала, калі ты нарэшце закранеш гэтую тэму!**

**ЗБ:** Ёсць у мяне сябар, які сам з Мінска, але жыве ў Маскве. Ён катэгарычна сцвярджае пэўныя рэчы — і ўсё. Я ж імкнуся яму прапанаваць пагледзець на падзеі з аднаго і другога боку, можа, там таксама ёсць пэўныя доказы. Але ён не хоча нават гэтага чуць. Хоць дыялог — гэта самае істотнае.

### Краіна не вінаватая

**«НН»: Што б ты ні казаў пра апалітычнасць, я адчуваю, што табе ўся гэтая тэма баліць.**

**ЗБ:** Гэта проста пазіцыя. Нармальная пазіцыя. Зімой неяк быў у нас з сябрамі канфлікт з кантралёрамі, якія сказалі: «Гэта не мы такія, а краіна такая». Я не разумею, як можна звальваць сваю сволачнасць на краіну, у якой ты жывеш. Агрэсія нікуды не вядзе.

**«НН»: А хіба не ўлада стварае жыццёвыя ўмовы, якія фармуюць адпаведную агрэсію і незадаволенасць жыццём?**

**ЗБ:** А як жа ўласная мера адказнасці? Варта сачыць за сваімі паводзінамі. Ніхто табе нічога не абавязаны. Я не думаю ні пра дзяржаву, ні пра палітыку. Пакуль мне ёсць за што набыць хлеб і масла, як бы гэта ні гучала, я магу спакойна засяроджвацца на значных для мяне рэчах.

**«НН»: Але толькі людзі, якімі была абраная ўлада, могуць і павінны паказаць, што яна свае функцыі не выконвае!**

**ЗБ:** Мне істотна, каб мужчыны не харкалі на асфальт. Давайце засяродзімся на сабе і ўласнай культуры.

**«НН»: А так хацелася пра драматургію! Давай вернемся да яе.**

**ЗБ:** Класна, а то я пачаў хвалявацца!

### «Што здарылася, клоўн ё***ы?»

**«НН»: Зноў-такі пра «Тату»: ён пісаўся па-беларуску ці гэта пераклад?**

**ЗБ:** Гэта пераклад, які рабіла Ірына Герасімовіч, якая вельмі пранікласся п'есай. Увогуле, існуе два пераклады. Яшчэ адзін — у Тэатры драматургіі. Справа ў тым, што я не пішу па-беларуску. Мне цяжка на беларускай мове размаўляць, бо хоць я нарадзіўся ў Беларусі, але да васямнаццаці год жыў у Калмыкіі. Я люблю беларускую мову, але пакуль я проста як сабака, які разумее, а сказаць нічога не можа.

Тата рускі ў мяне, а мама — беларуска. Але я лічу сябе беларусам. Тата і дзед з-за гэтага крыўдзяцца. Я жыву тут, працую і нікуды з'язджаць пакуль не хачу.

**«НН»: Нават не разглядаў такія варыянты?**

**ЗБ:** Разглядаў. Але не хочацца. Я вельмі люблю Беларусь.

**«НН»: Ведаю, што твае бацькі спачатку не верылі ў тое, што ты робіш. Калі яны пабачылі, што гэта не гульні?**

**ЗБ:** Я з рабочай сям'і. Мама працавала на заводзе, тата — у аэрапорце ўсё жыццё. Яны і цяпер не могуць адчуць, што я раблю. Іх стаўленне змянілася дзесьці праз год дзевяць пасля таго, як я прыйшоў у гэтую прафесію.

**«НН»: Ці не было табе крыўдна ад гэтага?**

**ЗБ:** Праца забірае ўсе такія думкі. І як бы яны ні ставіліся, я заўсёды ведаю, што яны мяне любяць. Быў толькі на пачатку адзін выпадак, калі ў каледжы мастацтваў у Мінску ў мяне скралі заплечнік з пашпартам і пасведчаннем на жыхарства. Я вырашыў пазваніць тату з мабільнага. А гэта было вельмі дорага, і калі ім і карысталіся, то выключна ў экстраных выпадках. Таму ён адразу кажа ў слухаўку: «Ну, што здарылася, клоўн ё***ы?» І гэты выраз цалкам апісваў тое, як ён ставіўся да майго выбару.

**«НН»: А чаму ты вырашыў ехаць з Калмыкіі ў Беларусь вучыцца?**

**ЗБ:** Бацькі — адэкватныя людзі і ведалі, што ў Маскву ці Піцер я не паступлю, таму заставаўся Мінск. Брат, які жыў тут, усё прабіў і даведаўся. У Акадэмію мастацтваў не паступіў, таму заставаўся каледж. І за гэта я лёсу ўдзячны, бо там я пачаў нарэшце чытаць кнігі.

### 5% таленту

**«НН»: Заўсёды задумвалася, ці людзям цікава чытаць пра драматургію або рэжысуру. Зміцер, як ты лічыш, наколькі драматургія папулярная ў Беларусі?**

**ЗБ:** Гэта забыты жанр літаратуры. Мы не ідзём у тэатр на аўтара, мы ідзём у тэатр на акцёра. Асабліва калі казаць пра маладую драматургію. Каму патрэбны малады драматург? Тут вырашае імя акцёра ці тэатр. Справа ў тым, што наш розум навостраны на тое, каб ісці на таго ж самага Камбербэтча, і неістотна, у якім фільме ці ў якім спектаклі ён грае.

**«НН»: Ці спраўдзіліся твае студэнцкія чаканні наконт будучай прафесіі і рэжысуры?**

**ЗБ:** Я адразу не меў ілюзій. Калі паступіў у Акадэмію мастацтваў, я здзівіўся, як маладыя студэнты рамантычна ставіліся да таго, чым яны будуць займацца. У каледжы нам заўсёды казалі, што гэта не храм, а штодзённая праца. Тэатр — гэта не рамантыка. У першым жа томе Станіслаўскага напісана, што гэта 5% таленту, астатняе — праца і высілкі. Мы ніфіга не богам пацалаваныя.

### Без чытання навінаў ніяк

**«НН»: Твае спектаклі «Любоў людзей» паказваюць у Маскве ў Маякоўскім тэатры, на Таганцы, паўсюль яны маюць шалёны поспех. Наколькі мне вядома, нават у Манголіі паставілі тваю п'есу.**

**ЗБ:** Я сам афігеў і дагэтуль не ведаю, як яны яе знайшлі. Дзе я, а дзе Манголія.

**«НН»: Я шмат чула пра твае дакументальныя п'есы «Мабыць» і «Патрыс», напісаную ў суаўтарстве. Можаш у двух словах распавесці пра іх?**

**ЗБ:** «Патрыс» — дакументальная п'еса пра Радзіму. Мы бралі інтэрв'ю ў людзей Мінска, якія распавядалі пра тое, што для іх патрыятызм. Спектакль «Мабыць» — гэта нашая спроба парэфлексаваць на тэму, што ўяўляюць з сябе беларусы і як яны самі да сябе ставяцца.

**«НН»: Багаслаўскі-драматург піша па натхненні ці на замову?**

**ЗБ:** Я не прытрымліваюся пазіцыі Хармса «ні дня без радка», мне трэба ўвесь час чымсьці насычацца.

**«НН»: І як ствараецца п'еса?**

**ЗБ:** Гэта збор і падрыхтоўка матэрыялу, гэта вялікае даследаванне сябе і грамадства. Гэта вялікая і доўгая праца. Пішу я выключна на ўласным балконе, абавязкова з кубкам любімай гарбаты. П'ю пуэр і пішу.

**«НН»: Яшчэ я ведаю, што твой дзень пачынаецца з ванны і навін.**

**ЗБ:** Чытаць трэба абавязкова і ў вялікай колькасці, без гэтага ніяк. Гэта вядома зацягвае, ты проста правальваешся ў гэтую плынь навін, пераходаў і інфармацыі.

**«НН»: За ўвесь час працы ў тэатры і драматургіі ты зразумеў, чаго хоча наш глядач?**

**ЗБ:** Мы маем малую аўдыторыю, якая не хоча размаўляць пра сябе, якая не гатова выслухаць і ўспрыняць нешта кепскае пра сябе. У тэатры ходзяць адпачываць, а не шукаць адказаў на пытанні. Я пахвалюся і скажу, што сёння выклалі спіс патрэбных для Беларусі спектакляў. Першае месца сярод іх заняў спектакль «Мабыць», у якім мы апрошвалі людзей наконт таго, хто такія беларусы.

**«НН»: І ўдалося знайсці адказ на пытанне, хто мы?**

**ЗБ:** Яго няма. Выдатна характарызуе беларусаў эпізод з адной з частак гэтага спектакля. Дзядуля распавядае пра тое, як у яго абрабавалі падвал: скралі тры слоікі кілбасы, тры тушонкі. На што ён рэагуе словамі: «Ну, хай хоць паядуць».

**«НН»: А калі паспрабаваць знайсці трапнае слова, якім бы яно было?**

**ЗБ:** *(трошкі падумаўшы, з усмешкай на твары, ён кажа расцягнута і з пяшчотай)* Чалавекі. Не чалавек, а менавіта чалавекі.



КРЫЛА ХІЛЬКО

**Зміцер Багаслаўскі**

Нар. у 1985 у Мінску. Да 18 год жыў у Калмыкіі. Скончыў Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў па спецыяльнасці «рэжысура» (2005), а затым Акадэмію мастацтваў па той жа спецыяльнасці (2010). Самы запатрабаваны ў Расіі беларускі драматург. Дзясяткі разоў трапляў у шорт-лісты драматургічных конкурсаў. Адзін і той жа яго спектакль ідзе ў двух беларускіх тэатрах — пад назвай «Тата» ў Купалаўскім і як «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў» у ТБД.

# Сястра Яўгена Куліка: Брат не падаваў бы ў суд за «Вершніцу»

Мастак Уладзімір Крукоўскі заявіў пра свой намер падаць у суд на пісьменніка Алеся Плотку і мастачку Юлію Галавіну за перарobку «Пагоні» ў «Вершніцу» і парушэнне аўтарскіх правоў на эталон герба «Пагоня».

Яўген Кулік (1937—2002) не можа выказаць стаўленне да сітуацыі вакол «Пагоні». Таму «Наша Ніва» распытала сястру мастака Тамару Мінкевіч, што яна думае пра абарону «Пагоні» ў судзе.

**«НН»: Вы — спадкаемца творчых набыткаў Яўгена Куліка. Як Вы ставіцеся да тых падзеяў, што цяпер актыўна абмяркоўваюцца вакол эталона герба «Пагоні» — варыяцыі з жанчынай на кані?..**

**Тамара Мінкевіч:** У цяперашняй Беларусі так мала мужных мужчын і так шмат незалежных, дзейных жанчын, што вобраз дзяўчыны-рыцара, абаронцы Айчыны, падаецца мне цалкам натуральным. Нічога благога ў такой папулярызацыі нашых нацыянальных сімвалаў асабіста я не бачу. Моладзі гэта падабаецца — і добра. Галоўнае — не пераступаць мяжу прыстойнасці.




**«НН»: Як бы, на Вашу думку, паставіўся да гэтага Яўген Кулік?**

**ТМ:** Цяжка адказаць на гэта пытанне. У адным я ўпэўненая: у суд ён гэтых маладых людзей не пацягнуў бы.

**«НН»: Зянон Пазняк называе Яўгена Куліка адзіным аўтарам эталона. Што Вы пра гэта можаце сказаць?**

**ТМ:** Я думаю, што Пазняк лепш чым хто ведае гісторыю стварэння эталона, бо ён сам курыраваў тую працу. І я ніколі не сумнявалася ў праўдзівасці гэтага чалавека.

Яўгену шмат хто спрыяў — парадамі, кансультацыямі, тэхнічнай дапамогай. Гэта і мастакі, і мастацтвазнаўцы, і гісторыкі, і археолагі: Міхась Ткачоў, Міхась Чарняўскі, Мікола Купава, Уладзімір Крукоўскі, Аляксей Марачкін, Пётра Драчоў, дый сам Зянон Пазняк. Яўген быў вельмі ўдзячны ім. Але гэта была яго творчая праца.

Раскажу пра адзін эпізод, які мяне калісьці моцна ўразіў (я, дарэчы, расказваю гэта ўпершыню).

Аднаго разу, гадоў 20 таму, я зайшла да брата ў майстэрню. Яўген быў вельмі ўсхваляваны і засмучаны. Я спыталася, што здарылася. А перад ім ляжала публікацыя пра тое, што эталон стварылі Крукоўскі і Кулік. «Сястрыца, павер мне, тут адсоткаў дзевяноста маёй працы», — дрыготкім голасам вымавіў ён і закрыў твар рукамі.

**Гутарыў Фёдар Каралёў**

**Тамара Мінкевіч**

нарадзілася ў 1944, жыве ў Мінску. Тамара — прафесійны хімік-навуковец. Больш за паўстагоддзя працавала ў Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

## Фотафакт




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Пачаўся продаж гадзіннікаў з «Пагоняй»

Кампанія «Хвіліна» абвесціла аб старце продажаў «вышываных» гадзіннікаў «Повязь часу» і «Вершнік 1588». Прэзентацыя лімітаванай партыі новых гадзіннікаў прайшла падчас заняткаў «Мова нанова» ў галерэі «Ў». Серыя «Вершнік» (на фота) лімітаваная — толькі 300 гадзіннікаў. Цана — 3,3 млн рублёў. Такая сумма склалася з-за срэбнага пакрыцця гадзінніка (каля 2 грамаў), сапфіравага шкла і швейцарскага механізма Ronda.

# У Расіі спяклі торт з Хатынню

У Краснаярску выбралі найпрыгажэйшы торт на тэму Другой сусветнай вайны. Пераможцам кандытарскага конкурсу стаў трохузроўневы торт, аздоблены паводле фотаздымкаў часоў вайны. На верхнім узроўні самалёт і пахавальны ліст, на сярэднім — фігура дзеда з дзіцём на руках, што нагадвае скульптуру ў Хатыні, на ніжнім — вечны агонь. Кампазіцыю дапаўняе гранёная шклянка, накрытая лустай хлеба.

У конкурсе таксама бралі ўдзел пачастункі ў форме помніка «Маці-радзіма» ды рэканструкцыі баявых дзеянняў. Лёс кандытарскіх вырабаў пасля завяршэння конкурсу невядомы.

Здымкі з конкурсу ўжо выклікалі рэзананс у расійскіх сацсетках. Паэт Арлуша (Андрэй Арлоў) прысвяціў тартам верш «В Красноярске утром рано дети съели ветерана».

**Аляксандр Арсёнаў**



# Беларускія замкі: засыпце іх пяском!

Піша **Сцяпан Стурэйка**.



Калі б у мяне запыталіся, што рабіць з гаротнымі нашымі замкамі, я б параіў засыпаць іх пяском. Менавіта так могуць вырашыцца дзве самыя важныя праблемы. Першая — пад тоўшчай пяску замкі лёгка ператрываюць некалькі сотняў гадоў. Другая — перастануць, параненыя часам і рэстаўратарамі, палохаць жыхароў. Тады нарэшце сціхацца гнеўныя праведнікі, якія, не разумеючы сутнасці, заклікаюць то да хутчэйшага «навуковага выратавання», то да пакарання шкоднікаў-рэстаўратараў.

І, можа, тады, у цішы і спакоі, народзяцца нарэшце ўдумлівыя праекты — не, крый божа, не аднаўлення (бо як жартуюць рэстаўратары, бессэнсоўна аднаўляць шкілет Чапаева ў 12-гадовым узросце), але новага пазітыўнага выкарыстання.

А пакуль дзяржаўная праграма «Замкі Беларусі» больш нагадвае сюжэт старога савецкага жарта пра вагон з забітымі вокнамі, які стаіць на месцы, а каб у пасажыраў паўставаў эфект падарожжа, нехта звонку яго ўвесь час трасе. Вагон, які нікуды не едзе.

Вы толькі паслухайце: валанцёраў баяцца пускаць кансерваваць Крэўскі замак з-за небяспекі яго забурэння; затое на вежу Любчанскага замка ўжо паспелі паставіць купал ад... Гарадзенскага (дакладна такі як з гравюры Горадні 1612 г.); на Наваградскім замку адрэстаўравалі руіну да стану... навюсенькай руіны; Быхаўскі замак ушчэнт разрабавалі самі быхаўцы, прычым усяго за 10 гадоў.

Кажуць: нам патрэбныя турысты. Вось адбудуем замкі, паплывуць турысты — і зажывём! Турызм стаўся рэлігіяй, мантрай для паўтарэння ў хвіліны няпэўнасці. Хоць забываецца, што, каб адчуць хаця б які эканамічны эфект ад развіцця турызму, падарожнікі мусяць правесці ля замка самае меншае ноч. У гэтым сэнсе нават у суперраскручаным Нясвіжы «сапраўдных» турыстаў вобмаль.

Але ці не важней было б аднаўляць замкі не для выпадковых наведнікаў, а для саміх жыхароў, пад іх актуальныя праблемы? Не ладзіць карнавалы ды псеўдагістарычныя Дыснэйлэнды, а фарміраваць новую прастору з сацыяльнымі функцыямі? Мо і не надта патрэбныя ў Ружанах, Быхаве, Смалянах новыя музеі «рыцарскай славы». А вось паліклінікі, навучальныя ўстановы, нарэшце — гаспадарчыя аб'екты. Чаму не?

У пэўнай сітуацыі замак сапраўды можа граць ролю цягніка ў павышэнні якасці жыцця ў горадзе. Аднак каб гэта сапраўды адбылося, неабходна праектаваць не толькі архітэктурна-будаўнічую, але і сацыяльную частку рэстаўрацыі.

На жаль, сёння лакальныя супольнасці, мясцовыя ініцыятывы практычна выключаныя з удзелу ў лёсе такіх «горадаўтваральных» культурных аб'ектаў, як замкі. Яны не належаць супольнасцям. Ды што там, яны часта не належаць нават мясцовым органам улады. Рашэнні па іх прымаюцца і зацвярджаюцца ў Мінску ды абласных цэнтрах. Урэшце сталічныя тураператары прывозяць туды турыстаў для мімалётнага агляду, выключаючы мясцовыя гатэлі і кавярні са свайго маршруту. Шэраг рэстаўрацыйных праектаў часам нават пагаршае сітуацыю, раздзіраючы і так няшчыльныя сувязі мясцовых жыхароў з іх спадчынай.

Складана, кажаце? Хто будзе распрацоўваць гэтыя новыя канцэпцыі? І навошта, калі састарэлыя раялі даўно схаваліся ў кустах? Таму і кажу: сыпце пясок, шмат пяску, каб цалкам схаваць руіны пад ім. А на гару пасадзіць дзяцей. Хай гуляюцца. Мо вырастуць, адкапаюць і ў новай Беларусі будзе ім справа да сацыяльнага вымярэння спадчыны й рэстаўрацыі. Да таго ж пясочніца — першае месца дзіцячай сацыялізацыі, трэнажор пазітыўнай камунікацыі ды партнёрства. Вось і карысць!..

# На жыхара Мінска напаў распаўсюднік сцяжкоў СССР

Грамадскі актывіст Андрэй Кім расказаў, што на яго напаў малады чалавек, які распаўсюджваў мініяцюрныя сцягі Савецкага Саюза. Кім знаходзіўся на паркоўцы ля гандлёвага цэнтра «Экспабел», калі заўважыў маладога хлопца, які прапаноўваў кіроўцам сцяжкі СССР.

«Сцяжкі былі з прысоскамі, каб мацаваць іх на шкло аўтамабіля. Я падышоў да хлопца і сказаў яму, што не варта прадаваць гэтыя сцяжкі, запатрабаваў, каб той сышоў. На гэта хлопец пакруціў галавою — даў мне зразумець, што ён глухі і не чуе мяне. Тады я пачаў паказваць яму на мігі, што выклікаю міліцыю. Хлопец адышоў ад мяне і прапанаваў сцяжкі яшчэ аднаму кіроўцу. Той вельмі эмацыйна патлумачыў, што яму сцяжкі не патрэбныя, бо ад СССР было адно гора», — кажа Кім.

Кім вырашыў сфатаграфаваць распаўсюдніка сцяжкоў на мабільны тэлефон. Пабачыўшы гэта, малады чалавек праявіў агрэсію.

«Спачатку ён захацеў уцячы, але потым перадумаў і накінуўся на мяне. Ён спрабаваў ударыць мяне ў твар, але прамахнуўся. Потым ён паспрабаваў выхапіць мой мабільны тэлефон», — паведаміў Кім.

Падобныя распаўсюднікі сцяжкоў масава з'явіліся ў Беларусі з 2013 года. Звычайна гэта глухія маладыя людзі, якія прадаюць кіроўцам дзяржаўныя сцягі Расіі (часта разам з беларускім сцягам) ці сцяжкі СССР. У распаўсюднікаў няма пастаянных пунктаў — яны з'яўляюцца на скрыжаваннях ці паркоўках, працуюць кароткі час і хутка сыходзяць. Хто наймае глухіх распаўсюджваць сцяжкі, пакуль невядома.

**Кірыла Хілько**



Цытата

## Александр Хацкевіч: Я за адзіную Украіну



«Я аднназначна за непадзельную Украіну. Вельмі люблю гэтую краіну. І апошнія падзеі дадалі ўкраінцам патрыятызму. Калі ў нашай зборнай людзі думаюць: «Не, выконваць гімн уголас не буду», і максімум — варушаць вуснамі незаўважна, то ўкраінцы цяпер на любым матчы прэм'ерлігі чакаюць 85-й хвіліны і пачынаюць усім стадыёнам спяваць. Выклікае павагу. Прынамсі мяне вельмі ўражвае. Шматгалоссе на ўкраінскай мове — гэта моцна, вядома», — сказаў галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Аляксандр Хацкевіч.

## «Бацька ўсіх людзей» жыў 239 тысяч год таму

По мутацыях Y-храмасомы ісландскія **навукоўцы прасачылі** супольнага продка сучасных людзей.



Вучоныя прааналізавалі гены 2,6 тысячы суайчыннікаў. Былі ідэнтыфікаваныя генетычныя мутацыі, адказныя за многія адхіленні — ад хваробы Альцгеймера да захворванняў печані. Таксама даследаванне прывяло навукоўцаў да агульнага продка сучасных людзей, распавядае The Verge.

Раней меркавалася, што наш агульны продак жыў каля 340 тысяч год таму. Маштабнае даследаванне ісландцаў «амаладзіла» яго да 239 тысяч год.

Падчас аналізу былі знойдзеныя рэдкія мутацыі ў генах, прааналізаваныя мутацыі мужчынскай Y-храмасомы. Такім чынам быў выяўлены больш дакладны ўзрост «Y-храмасомнага Адама», ад Y-храмасомы якога паходзяць Y-храмасомы ўсіх сённяшніх мужчын.

Акрамя таго, былі выяўленыя пэўныя «прыглушаныя» гены, без якіх чалавек можа абысціся. У даследаванні былі знойдзеныя 8 тысяч ісландцаў, у якіх не функцыянуе адзін з 1171 «прыглушаных» генаў. Часцей за ўсё «прыглушаўся» ген, адказны за адчуванне пэўных пахаў, адрозніваць якія сённяшняму чалавеку няма патрэбы.

The Verge адзначае, што Ісландыя — ізаляваная астраўная краіна з незвычайнай генетычнай гісторыяй, таму вынікі даследавання «прыглушаных» генаў могуць быць не самымі дакладнымі. Навукоўцы ж лічаць, што даследаванне дастаткова рэпрэзэнтатыўнае ў астатніх пытаннях, а ісландскія вынікі дапамогуць як мясцовай медыцыне, так і замежным даследчыкам.

**Аляксандр Арсёнаў**

## У Расіі цкуюць украінца — футбаліста піцерскага «Зеніта»

Капітан зборнай Украіны па футболе Анатоль Цімашчук разам з партнёрамі па камандзе напярэдадні адборачнага матча супраць Іспаніі наведаў у Кіеве шпіталь з параненымі ўкраінскімі вайскоўцамі. З адным з іх Цімашчук нават зрабіў сэлфі.



«Яны — героі. Вядома, са свайго боку мы падтрымліваем іх як можам. Вайна — гэта гора для краіны, для кожнай сям'і. Кожны з нас зацікаўлены ў тым, каб вайны не было. Веру, што наш прыход сюды можа даць магчымасць ім хутчэй паправіцца, выйсці з гэтага стану і атрымліваць асалоду ад жыцця», — сказаў Цімашчук па выхадзе з вайсковага шпіталя.

Варта адзначыць, што на сённяшні дзень Анатоль Цімашчук з'яўляецца футбалістам піцерскага «Зеніта». У Расіі адразу пачаліся нападкі на футбаліста, які падтрымаў «бандэраўцаў».

«Западтрымку бандфарміраванняў, забойцаў, рабаўнікоў забараніць Цімашчуку ўезд на тэрыторыю Расіі, а таксама накласці абавязак на «Зеніт» скасаваць з ім кантракт», — гэта адна з самых цэнзурных прапановаў, што з'яўляюцца ў сацыяльных сетках.

Скандальнае пракрамлёўскае інтэрнэт-выданне lifenews.ru адразу зрабіла акцэнт на тым, што ў Расіі Цімашчук атрымлівае каля трох мільёнаў еўра. Маўляў, такі вялікі заробак, а такая няўдзячнасць.

Зрэшты, не ўсе ў Расіі асудзілі Цімашчука за такі крок. Вядомы расійскі каментатар Аляксей Андронаў напісаў у твітары: «Рэспект, дружа!»

Самы вядомы заўзятар піцерскага «Зеніта», спявак і акцёр Міхаіл Баярскі, сказаў: «Цімашчука трэба разглядаць як футбаліста. Ён можа стасавацца з кім заўгодна: з прастытуткамі, з журналістамі, з касманаўтамі, з акваланґістамі. З кім заўгодна. З людзьмі любой арыентацыі. Гэта яго асабістая справа. Судзіць яго можна толькі за гульню на полі».

Анатоль Цімашчук — дасведчаны футбаліст. Яму 35 гадоў, родам з Луцка. Вядомасць заслужыў пасля пераходу ў данецкі «Шахцёр», у складзе якога правёў амаль 10 гадоў. Цімашчук пагуляў за гранда еўрапейскага футбола — мюнхенскую «Баварыю». А цяпер выступае за «Зеніт».

**Зміцер Панкавец**

Кіно

## Дзе хаваўся маньяк

Сусед
Жанр: трылер
Рэжысёр: Роб Коэн
У ролях: Джэніфер Лопез, Раян Гузман, Ен Нельсан, Джон Корбет, Крысцін Чэнуэт, Лексі Аткінс
ЗША, 91 хв.
Адзнака: 5 з 10

Клэр Пітэрсан выкладае ў школе літаратуру і гадуе адзінага сына. З мужам, які не аднойчы ёй здраджваў, яны жывуць паасобку, але Клэр яшчэ спадзяецца аднавіць сям'ю. Тым часам у доме па суседстве селіцца Ной, які прыехаў дапамагаць хвораму дзядзьку. Клэр радуецца, што сын пасябраваў з Ноем, але хлопец захапляецца маладой прыгожай маці зусім не пасяброўску...

Роб Коэн («Фарсаж», 2001) зняў сярэдні трылер, які ў асноўным прыцягне ўвагу прыхільнікаў спявачкі і актрысы Джэніфер Лопез. Стужка не вызначаецца ні арыгінальным сюжэтам, ні вытрыманым стылем. Пачынаецца як сямейная драма з рафінаванай карцінкай, а пад канец скатваецца ў сапраўдны трэш. Атмасфера нагнятаецца наскокамі, няўдала і няроўна, сюжэт прадказальны і часам не зусім звязны. Гераіня Лопез паводзіць сябе непаслядоўна, хоць сама актрыса заяўляе, што такая гісторыя магла здарыцца з кожным.

Стужка была знятая за 23 дні. У эратычных сцэнах Лопез знялася сама. Актрыса — неаднаразовая намінантка і ўладальніца «Залатой маліны» (прыза, які прысуджаецца за найгоршыя ролі). Сёлета выйшаў мультфільм «Дом», дзе Лопез агучыла персанажа Люсі.




Роль маньяка Ноя дасталася Раяну Гузману, вядомаму па ролях у серыі музычных фільмаў «Крок наперад» (2012, 2014).

Стужка мае пракатны рэйтынг 16+.

**Настасся Уласава**

# Украіна. Стомленасць металу

## Шчасце. Горад, які выжыў

Эксклюзіўны рэпартаж **Дар'і Кастэнка** з Данбаса.

Пасёлак Шчасце, за 5 кіламетраў ад Луганска, знаходзіцца з украінскага боку ад лініі размежавання. Яшчэ нядаўна ён быў адным з самых гарачых пунктаў у зоне АТА — і ў любы момант можа стаць гарачым месцам зноў.

Цяпер тут стаіць крохкая цішыня. Страляніна на ўскраіне не лічыцца, яна бывае амаль кожны вечар. Ніхто ўжо не звяртае ўвагі на раздзельнае, акцэнтаванае «та-та-та» буйнакаліfeaturнага кулямёта дзесьці на блокпату за горадам. Тут чулі і страшнейшыя гукі: свіст мінаў і агідны віск паветра, які рассякаецца ракетамі «Граду».

Шчасцеўцы адрозніваюць на слых мінамёт калібра 82 мм ад 120 мм. Для дзяцей «Васілёк» і «Півоня» даўно не кветкі. Настаўнікі супакойвалі дзяцей падчас абстрэлу: «Дзеці, гэта дрэва зламалася». — «Не, гэта па нас страляюць, чуеце? — сказаў першакласнік. — А зараз пойдзе атветка».

Я заязджаю ў горад з украінскімі валанцёрамі, каб правесці тут 4 дні і зразумець, як жыў і жыве горад на лініі фронту.

«Шчасце» — жоўтым па блакітным, з боку ўезду акуратна дапісана: «назаўжды наша».

З боку выезду — каб бачылі людзі, якія выязджаюць з прыфрантавой зоны, — да «Шчасця» дапісалі: «пачынаецца адсюль».

Шчасце — пасёлак энергетыкаў побач з Луганскай ЦЭС. Да вайны ён лічыўся часткай Луганска, уваходзіў у склад Кастрычніцкага раёна. Цяпер — адразу за Шчасцем, па рацэ Северскі Данец, праходзіць лінія размежавання з тэрыторыяй, падкантрольнай ЛНР. Так горад апынуўся на лініі фронту.

На тым баку Данца як на далоні бачная пануючая вышыня, Вясёлая Гара, на якой размешчаныя мінамётныя пазіцыі сепаратыстаў. За Вясёлай Гарой — сам Луганск.

Усё блізка, усё змяшалася і пераплялося на гэтай дзіўнай вайне. З Вясёлай Гары ляцяць міны, па Луганску ідзе адказ — а ЦЭС, якая знаходзіцца на ўкраінскай тэрыторыі, працягвае забяспечваць ЛНР электраэнергіяй.

* * *

Медыкі батальёна «Айдар» згаджаюцца даць прытулак мне на чатыры дні ў гарадской бальніцы, дзе яны занялі адзін паверх пад вайсковы шпіталь. І вось мы едзем па горадзе на першую экскурсію. За рулём малады пахмурны хлопец з Вінніцы, у даваенным жыцці — Андрэй, анестэзіёлаг абласной бальніцы. У ваенным жыцці — начальнік медслужбы «Айдара», пазыўны Докі.

У Шчасці сонечна і ціха. Ціха да звону ў вушах, як у аглушанага выбухамі чалавека. Абстрэлы прыпыніліся месяц таму, пасля падпісання Мінскіх пагадненняў. Горад вымеў пабітае шкло і пачаў закопваць варонкі. Але разбурэнні дагэтуль бачныя паўсюль.

Разнесеная кутняя кватэра на вуліцы Рэспубліканскай — «Сюды трапіў снарад, загінула жанчына, яе бэлькай забіла, недзе там бэлька валялася са слядамі крыві».

Побач з домам стаяць цэлыя жаночыя боцікі на аддачу. Пэўна, проста супала. Але ніхто не бярэ.

Яшчэ адна разбітая кватэра — пападанне ў дах. Ускрытая плоць хатняй утульнасці, маленькага інтымнага свету — кілім, лямпа, батарэя.

— Едзем назад? — пытаецца Докі. — Варонкі я табе і каля бальніцы пакажу.

На бальнічную тэрыторыю міны і снарады падалі не адзін раз. Прамое пападанне знішчыла адну з хуткіх. Яе абгарэлы каркас медыкі да гэтага часу з задавальненнем паказваюць новенькім журналістам у якасці мясцовай страшылкі. Пашанцавала: у машыне ў той момант нікога не было.

Страшнейшая іншая гісторыя. 26 верасня 2014 проста на тэрыторыі шчасцінскай бальніцы падчас абстрэлу загінула маладая жанчына, якая прыйшла на прыём. У аднаго з лекараў застаўся здымак — у той момант яе яшчэ спадзяваліся выратаваць.

### Чужыя сярод сваіх

— Дзякуй, далей я сама, — кажу я Докі, выходзячы з машыны. — Увечары буду ў вас.

— Асцярожней тут, — кажа ён.

— А каго мне баяцца?

— Мясцовыя не вельмі нас любяць, — уніклівa кажа ён. — А нашы абавязкова будуць пытацца дакументы: у цябе не мясцовы акцэнт і ты з фотаапаратам.

Вуліцы купаюцца ў цішыні, сонечным святле і буркаванні галубоў. Недалёка ад бальніцы працуе аддзяленне «Новай пошты» — яна дастаўляла грузы ў Шчасце нават падчас абстрэлаў.

У агульнай чарзе па пасылкі стаяць пенсіянеры, мясцовая моладзь і вайскоўцы. Якраз прыбыў фургончык «Новай» — два мужыкі, крэкчучы, выгружаюць адтуль новенькую пральную машыну: нават цяпер у Шчасці хтосьці купляе дарагія рэчы.

На цэнтральнай плошчы шпацыруюць мамы з дзецьмі. Аня з маленькім Клімам бязбоязна дазваляе сябе фатаграфаваць.

Яе муж Косця пахмурнее і адварочваецца ад камеры.

Косця — міліцыянт, Аня — міліцэйскі псіхолаг. Яны працавалі ў Луганску, восенню з'ехалі адтуль у Шчасце, калі зразумелі, што ЛНР — надоўга. Падчас абстрэлаў згрэблі дзіця і адправіліся пераседжваць у сваякоў у Харкаўскай вобласці.

«Цяпер ціха, мы вярнуліся. Крамы ўжо працуюць, праўда, цырульня так і не адчынілася, ні пастрыгчыся, ні манікюр зрабіць», — кажа Аня.

«А калі зноў пачнуць абстрэльваць?»

«Не ведаю, — спадылба кажа Косця. — Проста не ведаю, што тады рабіць. Напэўна, паедзем назаўжды».

«Пра палітыку не будзем гаварыць. Мы — дзяржаўныя служачыя, нам нельга», — папярэджваюць яны. І чамусьці азіраюцца на пусты пастамент сярод плошчы: там стаяў Ленін, але яго яшчэ ўвосень скінулі байцы з «Айдара».

Праз плошчу наўскос ідуць два маладыя хлопцы ў камуфляжы, з шаўронамі «Айдара» і аўтаматамі за плячом. Ідуць да мяне.

«Добры дзень, а хто вы і адкуль?»

Я паказваю пашпарт і прэскарту. Слова за слова — праверка дакументаў ператвараецца ў шпацыр. За кампанію мы даходзім да брамы школы міліцыі — дыслакацыі «Айдара».

Ля варот разгружаюць свой мінібус валанцёры, з імі гавораць двое вартавых. Да людзей у форме бокам падыходзіць пажылая жанчына на мыліцах.

— Хлопчыкі, дайце таблетак абязбольвальных, калі ласка. У мяне суставы хворыя, а грошай няма на таблеткі. Так нага баліць, сіл няма, калі ласка, хлопчыкі...

— Няма ў мяне таблетак, — бурчыць вартавы. — Усе ходзяць, просяць... А ў саміх сваякі за ЛНР ваююць. Сыны і ўнукі вашы дзе? У апалчэнні? Чаму не клапоцяцца пра вас?

— У мяне ўнук добры, — мармыча яна. — Прыгожы. Ажаніўся, я яму кватэру ў Лісічанску аддала.



**Стэла на ўездзе ў горад шчарбатая ад куляў. «Фатаграфуй, — кажуць мне, — яе любяць здымаць журналісты.**



**Анлайн-карта лініі фронту ў Данбасе.**







**Жанчына пераехала ў Шчасце з занятага расійскімі сіламі Луганска. Таму мы закрываем яе твар.**




**Выбітае і ўжо зашытае ДСП акно — «Тут міна заляцела праз акно проста ў кватэру. Пашанцавала: уся сям'я сядзела ў суседзяў». Каля пад'езда — абломкі былой мэблі, развалены халадзільнік. «Вынеслі смецце і сталі жыць далей. Жыць жа неяк трэба».**

У яго ж сям'я, дзеці. Толькі не прыязджае сюды, грошай не дае бабулі. А так ён у мяне добры...

Дзяўчына-валанцёр вырывае са скрыні з лекамі для вайскоўцаў пачак абязбольвальных таблетак і паспешліва суне ёй. Вартавы адварочваецца і робіць выгляд, што не бачыць.

Жанчына прагна прыціскае да сябе ўпакоўку. У яе трасуцца рукі.

* * *

Адносіны мясцовых жыхароў з вайскоўцамі — складаная і балючая тэма. Многія шчасцеўцы падтрымлівалі або падтрымліваюць ЛНР. «Тут 80% «сепараў», ты даеш бабулі 10 грыўняў на хлеб — а яна цябе ў бога і ў душу, у маць услед», — злосна кажа мне баец «Айдара» з пазыўным Шаман. «50 на 50 %. Многія — «нашы», — не пагаджаюцца іншыя байцы.

Расейскія СМІ зрабілі з батальёна «Айдар» жупел — заходнеўкраінскіх «карнікаў» з рукамі па локаць у крыві снегіроў і немаўлят. Рэчаіснасць падобная да прапаганды не болей, чым абяцанні «сцерці Амерыку ў радыеактыўны попел» — на паводзіны душэўна здаровага чалавека.

Рэчаіснасць — яна заўсёды складанейшая.

«Айдар» — добраахвотніцкі батальён, які фармальна ўвайшоў у склад Узброеных сіл Украіны (але па факце даволі слабакіраваны). Тут служаць і мясцовыя, луганчане, і хлопцы з Заходняй Украіны. Большасць сапраўды прыйшлі «бараніць радзіму». Але трапляюцца і такія, што п'юць, і наркаманы, і раней судзімыя, прызнаюцца самі байцы. Адзіным адборам у батальён да апошняга часу была асабістая гутарка з камбатам.

У першым складзе было шмат майданаўцаў: «Многіх ужо няма, у нас былі вялікія страты летам і восенню. Найлепшыя людзі загінулі».

«Большасць — украінцы, замежнікаў — адзінкі. Ёсць руская дзяўчына, ёй 19 гадоў, яе пазыўны — Валькірыя. Ёсць некалькі грузінаў, быў адзін паляк. Маладыя прыбалты былі, але з'ехалі», — распавядаюць байцы.

«На вайне няма чорных і белых, усе мы тут шэрыя, як мышы». Былі выпадкі марадзёрства і «аджыму» машын, гэта кажуць і мясцовыя, і самі вайскоўцы. І ў той жа час — за зіму байцы «Айдара» раздалі больш за 12 тон гуманітарнай дапамогі, даязджаючы з ёй у самыя неспакойныя пункты ўздоўж лініі размежавання: Трохізбёнку, Станіцу-Луганскую, якія пацярпелі яшчэ больш, чым Шчасце.

Сур'ёзныя канфлікты з удзелам байцоў разбірае вайсковая камендатура, «несур'ёзныя» (дзе не ўжывалася зброя, не было параненых ці забітых) імкнуцца спускаць на тармазах. Мясцовыя стаўленіца да арміі насцярожана. Вайскоўцы адказваюць падвышанымі мерамі бяспекі, што мяжуюць з паранояй. Звычайная з'ява для любой вайны. Пры спробе сфатаграфаваць размяшчэнне вайсковай тэхнікі або ўладкаванне блокпаста вас напэўна затрымаюць. І, можа быць, паб'юць. І на ўкраінскай тэрыторыі, і на тэрыторыях ЛНР/ДНР ёсць мясцовыя жыхары, якія збіраюць інфармацыю і перадаюць яе праз лінію размежавання, працуюць артылерыйскімі наводчыкамі. Іх ненавідзяць больш, чым узброенага праціўніка. Такая дзіўная вайна: цяжка адрозніць «сваіх» ад «чужых».

### Вартаўнік брату свайму

Восенню мінулага і ў пачатку гэтага года Шчасце кожны дзень абстрэльвалі з мінамётаў і рэактыўнай артылерыі. Падчас абстрэлаў пацярпела палова ўсяго жылога фонду (з улікам выбітых шыбаў). Самым страшным быў месяц ад 15 студзеня да 15 лютага. Да сярэдзіны лютага з 14 тысяч насельніцтва засталося каля 3 — астатнія з'ехалі.

— Жудасная была ноч з 14 на 15 лютага, — распавядае мне Аліна. Аліне 65 гадоў, і 60 з іх яна пражыла ў Шчасці. А цяпер мы ідзём па сонечных напаўпустых вуліцах, і яна не пазнае свой горад. — Вось так павіншавалі нас з Днём святога Валянціна. 14 лютага ўвесь дзень сядзелі па кватэрах, баяліся па хлеб выйсці. Ноччу ўсё калацілася, дом ходырам хадзіў, мацней за ўсё бабахала проста перад поўначчу, быццам вырашылі нагуляцца перад перамір'ем. А потым поўнач — і цішыня... Мы спачатку не маглі паверыць, нават страшна, такая цішыня...

У шчасцеўскай бальніцы я чатыры ночы буду начаваць у палаце з такім акном — яго выбіла выбуховай хваляй, медыкі завесілі яго коўдрай і зацягнулі цыратай знутры. Жыць у такім памяшканні — холадна. Нават пры плюсавай тэмпературы.

За зіму валанцёры прывезлі ў Шчасце 60 з лішнім рулонаў цэлафанавай плёнкі. Жылбудсэрвіс раздаваў яе пацярпелым. Пенсіянерам і хворым дапамагалі камунальнікі, астатнім даводзілася спраўляцца сваімі рукамі. Плёнкі хапіла не ўсім, многія да гэтага часу крыўдзяцца і лічаць, што плёнку «раскралі».

— Што, не раскралі яе ўкропы твае? — далучаецца да нашай гутаркі немалады высокі мужчына — сусед Аліны.

— Чаму гэта яны «мае», — крыўдзіцца Аліна.

— А што, мае хіба? Сваіх я вось сяджу і чакаю... — жмурыцца ён і змаўкае.

— Языком не балбачы, чакае ён! Са мной вось дзяўчына з Мінска, журналістка, будзе пісаць пра нас.

— Ты мне скажы, журналістка. Вось ты верыш, што рускія маглі збіць «Боінг»? Што яны нас абстрэльваюць? Я — не веру. Я сам рускі, з Находкі — ведаеш такі порт на Далёкім Усходзе? Вось гэта жыццё было, пры СССР! Мы хадзілі ў Лацінскую Амерыку, на Кубу. Жыццё... Навошта я толькі пагадзіўся пераехаць у гэтую ж*пу...

— А хто, на вашую думку, абстрэльвае горад? — пытаюся я.

— Украінцы, вядома!

— Як вы думаеце, навошта яны страляюць па сваёй тэрыторыі? Тут жа поўным-поўна ўкраінскіх салдат.

— Я, думаеш, ведаю, навошта? Яны ж нацыкі!

— Нацыкі? — перапытваю я.

— Ну так, вось маю дачку... гэта... Дыс-кры-мі-ні-ра-ва-лі, — ён з цяжкасцю вымаўляе слова, — у інстытуце за рускую мову.

— Як менавіта?

— Яна вучылася ў Луганскім універсітэце імя Шаўчэнкі, яшчэ да вайны. Па-ўкраінску яна не надта гаворыць, устаўляе рускія словы. Здавала іспыт па ўкраінскай мове, а выкладчыца ў яе такая бандэраўка!.. Сказала: «На экзамене гаварыце на дзяржаўнай мове, а не на замежнай». Сволач.

— Дык а экзамен дачка здала? — пытаюся я.

— Здала.

— А цяпер яна дзе?

— Скончыла ўніверсітэт, працуе ў Харкаўскай вобласці.

— Хіба цяжка вывучыць украінскую мову? Я сама з Расіі, мае бацькі пераехалі сюды, калі я яшчэ вось такая была (паказвае рост 4—5 гадовага дзіцяці). У майго мужа маці — украінка, а бацька наогул паляк. Хто паруску гаворыць — я з тым парусску, а хто па-ўкраінску — з тым па-ўкраінску. Мы ж усе тут... браты? — няўпэўнена кажа Аліна.

— Прывет! — яна махае рукой пажылому мужчыну. Пенсіянер, дзядзька Міша, паліць на балконе — сонечны дзень, цішыня. У яго доме на вуліцы Матросава засталіся лічаныя жыхары.

«У нашым пад'ездзе толькі двое, — удакладняе ён. — Я і яшчэ адна жанчына з трэцяга паверха. Суседзі, якія з'ехалі, пакінулі ключы ад кватэр. Я тут як вартаўнік.



Хаджу, катоў кармлю. Яны сваіх катоў павыпускалі на вуліцу.

Катоў тут і праўда шмат. Яны нязвыкла дагледжаныя і даверлівыя. Замест таго, каб уцякаць, ціснуцца да ног бабулек ля пад'езда.

* * *

Аліна падводзіць мяне да суседак: «домсавет» хоча пазнаёміцца.

— Вы навошта аж з Беларусі сюды прыехалі? Беларусаў хіба цікавіць, што ў нас тут?

— Цікавіць, — кажу.

— Пра што хочаце напісаць?

— Хачу паказаць, як тут усё на самай справе. Ведаеце, у Беларусі ёсць людзі, якія хочуць зрабіць у нас Віцебскую народную рэспубліку.

— Напішыце, што мы аднаго хочам: каб ціха было. У нас і без таго галеча, дык яшчэ і гэта «палачэнне» [маецца на ўвазе «апалчэнне», сепаратысты — **ДК**]! Калі страляюць, здаецца, што душа з целам развітваецца. Каму гэта трэба? Вось яны арганізавалі Луганскую і Данецкую рэспубліку — і ў іх ні заробкаў, ні пенсій няма, а як людзям жыць? Хай Беларусь ведае: ніякіх гэтых вось рэспублік! Так і напішыце!

— Дачка, а пагавары з намі пабеларуску, — просіць адна жанчына. — Яно ж падобна да ўкраінскай, усё зразумела і так прыгожа...

Я пераходжу на беларускую — і думаю: чорт, ну і як потым пра гэта ўсё пісаць?

Так і напісала.

### Вайна не выбірае

Вайна не прыходзіць да нейкіх «асаблівых», «іншых», «падрыхтаваных» людзей. Кожны, у чыё жыццё яна ўрываецца, глядзіць на першыя дзіркі ад асколкаў у сцяне ўласнага дома з адным і тым жахам і разгубленасцю.

Уявіце сабе, што вы, у сваім маленькім пасёлку, дзе вучэнні па грамадзянскай абароне праходзілі апошні раз гадоў дзесяць таму, — што вы прачнуліся ноччу ад грукату выбухаў. Што адбываецца? Куды бегчы?

**Працяг на старонцы 12.**



**У маразы гэта было пытанне жыцця і смерці: вокны забівалі ДСП, затыкалі матрасамі і падушкамі, завешвалі коўдрамі.**



# Украіна. Стомленасць металу

## Шчасце. Горад, які выжыў

Працяг са старонкі 11.

Украінскі гарадок Шчасце, прыгарад Луганска, які апынуўся на лініі фронту ўвосень 2014 года, не быў гатовы да вайны. Як не быў бы да яе гатовы любы беларускі горад.

У верасні пачаліся мінамётныя абстрэлы Шчасця з тэрыторыі ЛНР. Многія жыхары чакалі, пакуль яны скончацца, у сваіх дамах: проста таму, што побач не было склепа, які б мог стаць бамбасховішчам. У студзені-лютым 2015 абстрэлы сталі практычна штодзённымі, горад даведаўся, што такое ракеты «Граду». Да сярэдзіны лютага з 14 тысяч жыхароў у Шчасці засталося 3—4 тысячы, у асноўным, работнікі Луганскай ЦЭС (горадаўтваральнага прадпрыемства) і пенсіянеры, у якіх не было грошай і магчымасці выехаць.

І ўсё ж горад выжыў. У маразы «на ляту» латалі разбітыя трубы цеплацэнтралі. Працавалі хуткая і МНС. Школа пераходзіла на дыстанцыйнае навучанне, настаўнікі рассылалі заданні па інтэрнэце і верылі, што абстрэлы скончацца і дзеці вернуцца.

Сёння я іду да тых людзей, якія не проста засталіся, а да людзей, дзякуючы якім горад застаўся ў жывых.



Фасады дамоў стракацяць латамі вокнаў, выбітых выбухамі і зацыраваных тым, што было.

### Цяжкія ападкі

Недалёка ад блокпаста і мясцовага аддзялення МНС ляжыць цэнтральная апорная частка ракеты «Града». «Да яе мацуецца баявая частка, якая потым разлятаецца, — тлумачаць мне ратавальнікі. Называць свае імёны яны не хочуць: «Нам забаранілі афіцыйна кантактаваць з журналістамі».

Неафіцыйна — можна.

«У студзені-лютым мы даведаліся, што такое рэактыўная артылерыя. Вось такія ў нас «ападкі». Некаторыя варонкі былі памерам з пакой. Больш за 10 пападанняў за месяц — непасрэдна ў жылыя дамы. Разбураныя сцены, дахі», — кажуць ратавальнікі.

12 лютага ў Шчасці загінула 3 чалавекі. Прамое пападанне снарада ў кавярню «Дарожную» забіла трох жанчын, якія працавалі на кухні. Яшчэ дзве ў цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу Севераданецка, «пра далейшы іх лёс мы дакладна не ведаем, але, па-мойму, абедзве пакуль жывыя».

Яшчэ адно пападанне ўскрыла ганглёвы цэнтр, але абышлося без ахвяр.

Цудам ацалеў прадуктовы супермаркет Sparo, які працаваў падчас самых жорсткіх абстрэлаў. У нейкі момант гэта было адзінае месца, дзе можна было (хоць і ўтрая даражэй) купіць прадукты ў Шчасці. Пападанне ў яго немінуча выклікала б ахвяры, бо будавалі яго без разліку на вайну, і ўласнікі крамы, будзем сумленныя, не асабліва клапаціліся пра бяспеку работнікаў.

«Вы хаваліся ў сховішчы падчас артабстрэлаў?» — пытаюся я ў Марыны, прадаўца ў Sparo.

«Якое сховішча, у нас тут і падвала няма, — махае рукой яна. — Калі блізка бабахае — мы сядзем на падлогу, пасядзім. Сціхла — устаём».

### «А мы хадзілі на працу»

Ля школьнага ганка, проста пад ялінай, — варонка ад міны. Тэрыторыю сярэдняй школы №1 г. Шчасце тройчы накрывала мінамётным агнём. Тры тыдні ў дзяцей былі вымушаныя канікулы: абстрэлы былі такімі моцнымі, што заняткі адмянілі.

У настаўніцкай — дзве жанчыны. Аксана Аляксандраўна — класная кіраўніца 9 класа, Ніна Сяргееўна — 11-га. Мы п'ём чай, чакаем дырэктара школы і размаўляем. Вядома, пра дзяцей. І пра вайну.

— Дзеці стараюцца не падаваць выгляду, што баяцца. «Вось мы сядзім, ідзе ўрок. Дзе-небудзь штосьці бахнула. Пачынаеш супакойваць: дзеткі, не хвалюйцеся, гэта далёка. Дзеці, здаецца, і бачаць цябе, але не чуюць. Сядзяць як зайчыкі: напалоханыя, ціхія. Спрабуюць слухаць цябе, але ў іх не ўдаецца.

— А як не баяцца, калі людзі гінуць? Мы тут адзін аднаго ўсе ведаем, гарадок маленькі. Калі Валянціна Іванаўна загінула, мы ўсе плакалі. Яна прыватны прадпрымальнік, у яе кавярня «Дарожная» за аўтастанцыяй, самая смачная. Яны хлеб у той дзень пяклі, былі на кухні — і прамое пападанне ў кавярню... Такія смачныя булкі былі, яе ўсе ў горадзе ведалі. Якое свята ці Вялікдзень — самыя смачныя булкі ...

— А Катляроў Сяргей Анатолевіч, пажылы чалавек, заслужаны энергетык Украіны... Загінуў каля свайго дома: выйшаў з вядром па ваду да калонкі — пабач выбухнула міна.

— А мы хадзілі на працу. Як абстрэл сціхне — прыходзім у школу... Калі кажуць, што гэта АТА, — не, гэта няпраўда. Выбачайце, гэта сапраўдная вайна.

— Я свайму ўнуку дзівуюся: іншыя дзеці перажываюць, плачуць, а гэты маўчаў, маўчаў, пакуль мы яго не вывезлі на поўнач нашай вобласці. Там ціха, спакойна ... Але першае, што спытаў у чужой кватэры: «А ў гэта акно нічога не заляціць?»

— Больш за ўсё ў нас пацярпелі маленькія, першакласнікі. Яны ж дыстанцыйна не могуць вучыцца, літар не ведаюць. Дзявяты клас пацярпеў і адзінаццаты. Ім жа трэба паступаць у інстытуты, а тут дарослыя так загуляліся... А што, калі ЛНР пачне наступаць, а мы на лініі фронту? Дзеці пра гэта ўвесь час пытаюцца. Я ім адказваю: не бойцеся, калі што, вас арганізавана вывезуць куды-небудзь у Севераданецк, у інтэрнат. А сама ох як не ўпэўненая...

— Два разы мы з дзецьмі ў падвале сядзелі пры абстрэле. Ведаеце, калі было страшна? Калі абстрэл пачаўся падчас урокаў працы. Праца ў старэйшых класаў ідзе ў майстэрнях, а каб спусціцца ў склеп, трэба дабегчы сюды, у асноўны будынак. То бок перасекчы двор. І мы баімся... Можам і не прайсці. Чакалі моманту, калі ўсё сціхне, трымалі дзяцей, толькі заглухла ўсё — і мы пабеглі.

— Кожны дзень з пачатку студзеня і да 15 лютага нас абстрэльвалі. Планамерна, дом за домам. Такое пачуццё, што гэта запалохванне нейкае: вымятайцеся, маўляў.

Спачатку мы спынілі заняткі ў школе. Дзецям давалі заданні дыстанцыйна. Мне прыйшлося зарэгістравацца «Укантакце», усіх дзяцей запрасіць у сябры. Настаўнікі мне дасылаюць заданні па ўсіх прадметах, а я рассылаю дзецям. Так і камунікавалі, казалі, калі прынесці ў школу сшыткі з заданнямі. А ад 23 студзеня да 16 лютага спынілі вучобу нагул. Дзеці амаль усе з'ехалі, толькі цяпер пачалі вяртацца. У класах да гэтага часу па 15 чалавек замест 30. Выпускнікам трэба рыхтавацца да іспытаў... У нас адзінаццаты клас — такія разумнічкі. Усе ва ўкраінскія ВНУ хочуць паступаць: у Харкаў, Кіеў. Ёсць і палітолагі будучыя, і дызайнеры, адна дзяўчынка ў «мед» ідзе, два чалавекі ў Харкаўскі авіяцыйны інстытут.

— Дарэчы, пра старшакласніц. У горадзе поўна вайскоўцаў, прыфрантавая зона, усе са зброяй. Ці адчуваюць вашыя дзяўчаты сябе ў бяспецы? Некаторыя расійскія СМІ распавядаюць, што ўкраінскія вайскоўцы не грэбуюць нават пенсіянеркамі, — іду напралом я.

— Дзяўчаты ў любым горадзе бываюць розныя. Некаторыя рана пачынаюць паказваць, што яны цікавяцца процілеглым полам. Адносіны завязваюцца ў моладзі, як без гэтага. У горадзе ўжо былі 3 ці 4 вяселлі нашых дзяўчат з айдараўцамі. А пра выпадкі гвалту мы не чулі. Але была такая гісторыя. Вядомая ў нас дзяўчына, скажам так, лёгкіх паводзінаў трапіла на той бок. У ЛНР яна дала інтэрв'ю каналу «Расія-24». Ёй твар, зразумела, закрылі, але мы па голасе адразу яе пазналі. Яна распавядала, што яе тут згвалтавалі і што яна бедная-няшчасная. Але ўсе ж бачылі, што яна гуляла з імі па сваёй волі!

### Смерць не падпісваецца

— Школу абстрэльвалі тройчы, — успамінае дырэктар Антаніна Анатолеўна Шчагалькава. — Мы вучымся ў двух будынках: на суседняй вуліцы — пачатковыя класы, тут — сярэдняе і старэйшае звяно. У верасні ў двары пачатковай школы разарваліся чатыры снарады — моцна былі пашкоджаныя вокны. У кастрычніку з таго боку школы падалі снарады. А 31 студзеня амаль на ганку, пад ялінай, разарвалася міна з мінамёта, — расказвае яна.

— У верасні ў кабінет падчас урока трапіла снайперская куля. Быў урок працы ў 5 класе, у групы з васьмі хлопчыкаў. Настаўнік пасадзіў чатырох школьнікаў на правым шэрагу і чатырох — на левым. А на сярэднім шэрагу расклаў вырабы. Куля праляцела праз увесь клас — і трапіла ў дошку каля настаўніка. Пашанцавала...

Мы ідзём з ёй па школе, па светлых калідорах, ціхіх і пустых пасля ўрокаў. На сцяне — велізарны герб Украіны.

— Як дзеці ўсё гэта ўспрымаюць?

— Старэйшыя класы больш стрыманыя, а малыя, вядома, напалоханыя вельмі. Калі абстрэл здарыўся падчас урокаў і мы спускаліся ў падвал, некаторыя дзяўчынкі з 5 класа плакалі.

— Абмяркоўваюць паміж сабой усё, што адбываецца? Бо, напэўна, ёсць дзеці, якія «за ЛНР» і «за Украіну», хоць бы таму, што так вучаць іх у сям'і?

— Абмяркоўваюць, яшчэ і як! Іх, напрыклад, крыўдзіць, калі нас усіх без разбору называюць «сепаратыстамі», «Даўнбасам» ці неяк так. Я на сябе такое стаўленне не пераношу, я сепаратыстаў не падтрымліваю. А дзеці ... становяцца на розныя пазіцыі, бо бацькі ва ўсіх думаюць па-рознаму. Я ім кажу: ваша справа цяпер вучыцца і застацца жывымі. Дарослыя няхай самі разбіраюцца. І нашы дзеці, разумнікі, вельмі памяркоўныя адзін да аднаго.

Гэтак жа як і ў вучняў, ёсць свае погляды на палітыку і ў настаўнікаў. Ёсць педагогі і з прарасійскімі поглядамі. Але мы ўвялі залатое правіла: на працы мы нікому нічога не даказваем. Так вырашылі калектыву на нарадзе, і мы гэтага прытрымліваемся.



Кавалак ракеты «Граду» валяецца проста на вуліцы.

Вось тут у нас кабінет украінскай мовы, паглядзіце, як мы прыгожа яго аформілі, — перарывaецца яна. — Некаторых дзяцей гэта ўсё, наадварот, заахвоціла гаварыць на ўкраінскай мове... У гэтым годзе знайшлося 15 ахвотных, і мы адкрылі ўкраінскамоўны клас. Я і сама пачала гаварыць па-ўкраінску. Вось што дзіўна: там, наверсе, я хацела б парваць іх усіх за тое, што яны робяць, а Украіну — люблю.

Ведаеце, а ў нас цяпер ёсць школа-пабрацім. Пра нашую школу даведаліся на Валыні, у гімназіі горада Луцка. Дзесьці знайшлі мой мабільны нумар, іх завуч стэлефанавалася са мной, і да Новага года кожнаму вучню даслалі па навагоднім падарунку — вялікі набор цукерак. А да свята Нараджэння Хрыстовага даслалі падарунак кожнаму настаўніку. Цяпер мы дамаўляемся, каб група вучняў з нашай школы паехала вучыцца ў Луцк.

Потым пра нашу школу даведаліся ў Ровенскай вобласці, у горадзе Астрог. Там у іх ёсць газета «Замкавая гара», яна выступіла з ініцыятывай — «падорым калачак шчасця кожнаму дзіцяці горада Шчасце». Прыехаў да нас намеснік кіраўніка Астрога перад Новым годам. Кожнаму з 1—4 класаў быў падораны вялізны мяшок мяккіх цацак! І нас запрасілі вясной у госці. Калі будзе ціха, павязём дзяцей на аздараўленне.

— А гэта наш кабінет гісторыі.

На дошцы засталася тэма ўрока: «Храмы Украіны».

На сцяне — стэнд, прысвечаны СССР: піянерскія гальштукі, вымпелы, стары буквар. Побач — падрабязная карта ваколіц Шчасця. Чырвоныя стрэлкі з усходу паказваюць, як наступалі часткі савецкіх войскаў падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Мы моўчкі глядзім на карту. І разумеем: па ёй можна арыентавацца і цяпер. Толькі электрастанцыі на ёй яшчэ няма. І тых, хто можа прыйсці з усходу, палова шчасценцаў не лічыць вызваліцелямі.

У кожным кабінеце вісяць плакаты ЮНІСЕФ, якія распавядаюць школьнікам аб небяспецы мін і выбуховых прылад. «Глядзі пад ногі! Так, сапраўды выбухне. Так, пакалечыць або заб'е. Так, і сяброў таксама».

Гэтыя плакаты яшчэ доўга будуць патрэбныя тут: берага ракі Северскі Данец і «зялёнка» вакол горада — у мінах і расцяжках.

— Вам хаця б інструктаж па бяспецы хто-небудзь праводзіў?

— Не паспелі. Вайскоўцы збіраліся правесці інструктаж — і тут якраз пачаліся абстрэлы. А ў другой школе былі вучэнні: настаўнікам паказвалі, як аказваць першую дапамогу, як рэагаваць, калі падаюць снарады.

— Ці ёсць нейкі план эвакуацыі школьнікаў на выпадак, калі зноў пачнуцца актыўныя баявыя дзеянні?

— Ну, такі план эвакуацыі павінен быць на ўзроўні горада. А так што я магу зрабіць? Толькі спусціцца з дзецьмі ў падвал...

Яна змаўкае.

— Наогул, хочацца моцнага міру. Гэта ўсё не павінна было адбыцца ў XXI стагоддзі. Не... Мая суседка загінула 23 студзеня, прамое пападанне ў кватэру ў нашым пад'ездзе. Сідзельнікава, яе дзеці і цяпер вучацца ў мяне ў класе. У майго намесніка і нашай тэхнічкі разбураныя кватэры — зараз нешта спрабуем зрабіць з жыллём. Мая сакратарка ... пайшла ў краму, пачаўся абстрэл, яе параніла асколкамі ў жывот. Вайсковыя хірургі з Кіева аперавалі яе ў нашай бальніцы і выратавалі. Дзякуй ім вялікі.



Павісае доўгая паўза, а потым яна кажа ціха, гледзячы некуды праз класную дошку:

— Мой бацька загінуў у горадзе Луганску 5 жніўня. Усё заціхла, ён паехаў праверыць сваю кватэру на ўскрайку. Я яго не пускала, але, ведаеце, старыя, яны ж такія настойлівыя. Снарад трапіў у аўтобусны прыпынак, 5 чалавек загінула. Ну як гэта? Нельга ніяк было дапускаць гэтага.

— А чый гэта быў снарад, хто страляў?

— А хто яго ведае? Яны ж не падпісаныя, снарады. Можа, і наш.

### Плошча Міру

Выканкам Шчасця займае маленькі двухпавярховы будынак у цэнтры — на плошчы Міру. Я гутару тут з намеснікам мэра — Уладзімірам Пятровічам Цюрыным. Гэта мяккі, круглы чалавек з заспакаяльнымі жэстамі і хітрым прыжмураными вачыма.

На стале ў чыноўніка — стос папер сантыметраў 10.

— Гэта я збіраю заявы на матэрыяльную дапамогу ад людзей, чые дамы пацярпелі падчас абстрэлу, — тлумачыць ён. — Але, баюся, ніхто нам грошай не дасць. Пакуль толькі фіксуем разбурэнні, а грошай на аднаўленне няма. За кошт абласнога бюджэту ставяцца толькі вокны ў бальніцы. А ў горадзе пабіта каля 1000 вокнаў. Вокны старыя, драўляныя, вылятаюць лёгка. Толькі шклопакеты трымаюцца на здзіўленне — іх выносіць толькі прамое пападанне альбо калі цяжкі снарад падае зусім блізка.

— 1000 вокнаў?! А колькі наогул людзей засталося ў Шчасці?

— Падчас абстрэлаў заставалася тры-чатыры тысячы жыхароў з трынаццаці, цяпер, можа быць, — пяць з паловай тысяч. З іх 900 — работнікі Луганскай ЦЭС. Плюс іх сем'і. Плюс шмат пенсіянераў засталося: ім няма куды бегчы. Я вяду падлік па раздачы гуманітарнай дапамогі. У лютым каля 1500 пенсіянераў яе атрымалі, і яшчэ тысяча прыйшла, але не атрымала. Гэта значыць, каля 2,5 тысячы пенсіянераў знаходзіцца тут.

— Як у гарадской адміністрацыі выбудоўваюцца адносіны з вайскоўцамі, хто разбірае канфліктныя сітуацыі?

— На людзей са зброяй мы ўжо не звяртаем увагі: прывыклі. Калі канфлікты ўзнікаюць, выклікаем камендатуру, камендатура прыязджае і разбіраецца.

Спачатку — так, яны прыехалі сюды, называлі нас «сепаратыстамі». Але ўжо ў жніўні-верасні, калі практычна не было дзяржфінансавання, вайскоўцы дапамагалі нам з бензінам, саляркай, прадуктамі, дзякуючы ім вывозілася смецце, яны давалі наяўныя грошы на закупку матэрыялаў. Калі перабіла ЛЭП, якая вядзе ад станцыі, яны далі грошы, мы тут жа паехалі, купілі дрот. З хуткімі выязджалі, баранілі дактароў на выездах.




А наогул, сітуацыі былі розныя, асабліва ў жніўні-верасні, — мой суразмоўца задумена праціраe акуляры. — Асабіста я пасядзеў у склепе ў «Айдара», калі батальён толькі заняў горад. У нас большасць работнікаў выканкама была членамі Партыі рэгіёнаў. А я якраз членам Партыі рэгіёнаў не быў. Проста ўбачыў, як украінскія вайскоўцы займаліся марадзёрствам — і, відома, умяшаўся. Ну, яны мяне, каб не брахаў, прыкралі на 20 дзён. Праўда, і пальцам не кранулі. Два дні я прасядзеў у спартзале ў школе міліцыі, потым мяне перавялі ў зброевы пакой, я там быў адзін: спаў, еў і нічога не рабіў. Потым выклікаў мяне камбат «Айдара», Мельнічук, папрасіў прабачэння, сказаў, што выйшла непаразуменне. Хаміць было не месца і не час — я нічога і не сказаў. Таму што былі людзі, якія абураліся, хамілі — і іх білі. У рэшце рэшт, гэта вайна, хоць мы і называем яе АТА. Вось нядаўна арыштавалі сям'ю — мужа з жонкай — і дакладна высветлілі, што яны праз інтэрнэт скідаюць каардынаты ўкраінскіх вайскоўцаў у ЛНР... Так што падазронасць — гэта, напэўна, нармальна.

А марадзёрства ёсць і з таго боку. Тут у нас хаця б больш-менш скончылася. А нам па тэлефоне распавядаюць знаёмыя з Луганска, што там да гэтага часу адбіраюць дамы, машыны, рабуюць.

Дарэчы, мы з Мельнічуком засталіся ў нармальных адносінах, перапісваемся. Ён дэпутат Рады цяпер...

Мы, вядома, да гэтага часу застаёмся з вайскоўцамі рознымі людзьмі. Спачатку мы для іх былі «маскалі». Яны — «бандэраўцы» для нас. Потым мы ўбачылі, што сярод іх поўна рускамоўных, як і мы. Мясцовыя жыхары перажылі гэтую страшную зіму разам з вайскоўцамі, на перадавой. Цяпер усё крыху па-іншаму.

У дзверы прасоўваецца галава. Наведніца — поўная сталая жанчына.

— Уладзімір Пятровіч, можна да вас? Сакавік месяц ужо, а мне пенсію за люты не заплацілі, на картцы нічога няма. Разбярыцеся, калі ласка.

— Што я магу зрабіць, — злосна кажа ён. — Пенсіі вам плаціць Пенсійны фонд. Чакайце.

— Я з гэтым людзьмі разам перажыў усё, што было, — кажа ён, масажыруе скроні. — Падчас вайны выканкам быў і ЖЭКам, і пахавальным бюро — усім на свеце. Людзі сюды прыходзілі з усімі праблемамі: вады няма, ежы няма, хтосьці нарадзіўся, памёр, хату разбамбілі. Быў у курсе ўсіх падзей. Цяпер адфутбольваць іх цяжкавата. Хоць, бывае, нахабна хамiш, а што рабіць, калі людзі пераходзяць мяжу? Вось яна прыходзіць сюды — дайце мне пенсію, і ўсё тут! І нічога, што я — не Пенсійны фонд...

На сённяшні дзень мы перажылі два перамір'і і тры «вайны», — кажа ён. — Тры разы пачыналіся баявыя дзеянні, і з кожным разам усё мацнейшыя і мацнейшыя. Першы раз — у жніўні-верасні. Другі раз у лістападзе, разбілі каміны цеплацэнтралі, якраз калі ў нас пачаўся ацяпляльны сезон. І самыя моцныя абстрэлы былі з 14 студзеня па 14 лютага 2015 года. Горад абстрэльваюць штодня. У жніўні-кастрычніку абстрэльвалі ў асноўным ЦЭС і вайсковыя часці за горадам (у горад калі і залятаялі, дык адзінкавыя міны). У студзенілютым 2015 гэта быў нейкі дурдом, стралялі мэтанакіравана па горадзе — і цяжкая артылерыя, і «Грады».

— Адкуль абстрэльвалі Шчасце?

— Ды вось, праз рэчку.

— Вы маеце на ўвазе тэрыторыю ЛНР?

— Вядома. Я не спецыяліст у галіне балістыкі, але гатовы на карце вам паказаць пункты, адкуль стралялі, і куты паражэння. Ясна, што стралялі з тэрыторыі ЛНР. Ды што казаць. Я асабіста ведаю аднаго з тых, хто страляў па нас у апошні дзень, перад перамір'ем. Гэта быў жыхар Шчасця, які сышоў ваяваць за ЛНР, — Буртак Ігар. Пасля мінамётнага абстрэлу ён патэлефанаваў свайму былому суседу і спытаў: «Ну што, атрымалі ад мяне прывет?»

— А навошта?

— Я і сам спрабую зразумець. Бо жылі... лепш, горш,, але жылі. У святы пілі за мірнае неба над галавой, але, як аказалася, не разумелі, што гэты тост значыць.

За што ваююць тыя людзі — я зразумець не магу. Калі дзядуля Ленін залез на бранявік, у яго былі хаця б зразумелыя тэзісы: зямля — сялянам, фабрыкі — працоўным. А там ваююць за што? «Мы пайшлі да Расіі»? Расіі вы нафіг не трэба. А жыць за што? Там не прадугледжваецца ні аднаўленне прадпрыемстваў, ні адкрыццё новых прадпрыемстваў, я нават не ведаю, будзе пасеяна ці не. Што чакае гэтую тэрыторыю — я зразумець не магу. Асабіста для мяне зразумела, што наша тэрыторыя павінна заставацца ўкраінскай.

Вядома, некаторыя думаюць па-іншаму. Разумееце, у Шчасці і ў Горлаўцы былі два рамонтныя прадпрыемствы, работнікі якіх ездзілі рамантаваць ЦЭС па ўсёй краіне (СССР). Гэтак жа, як і сюды прыязджалі людзі з усяго Саюза і засталіся працаваць на станцыі. Вельмі шмат людзей, звязаных з Расіяй.

Зноў жа, суседні пасёлак, Станіца-Луганская — сельскагаспадарчы раён, дзе ўсё жыццё вырошвалі гародніну і ездзілі прадаваць у Расію, мяжа ж там побач.

Але я вось што хачу сказаць. У асноўнай масе людзі імкнуцца нават не ў Расію, а назад у СССР. Калі яны кажуць «Расія» — у іх асацыяцыя з Савецкім Саюзам узору 80-х гадоў, калі людзі атрымлівалі зарплату, а ў крамах пачало з'яўляцца «пепсі».

Яны хочуць туды — у СССР. Яны не разумеюць, што цяпер ва Украіне наша ЦЭС запатрабаваная, а Расеі танней выпрацаваць энергію на Кузбасе і перакінуць сюды, чым здабываць вугаль і трымаць станцыю тут. ЦЭС жа закрыюць... і шахты таксама.

Працяг на старонцы 14.

# Украіна. Стомленасць металу

## Шчасце. Горад, які выжыў

Працяг са старонкі 13.

У Растоўскай вобласці — а гэта расійская частка таго ж данбаскага кража — не засталося ніводнай шахты, якая працуе. Усе шахты зачыненыя, маламагутныя электрастанцыі пераведзеныя на газ. Хаця ўсё жыццё ў Навашахцінску, Шахтах, Мілераве — усё было вугальнае.

Тут, калі апалчэнцы праводзілі рэферэндум 11 мая, людзей прыйшло шмат, але не 95%, як пісалі ў ЛНР. Адсоткаў 50 прыйшло, максімум 60, астатняе — прыпісалі. Так і ёсць. Прыкладна палова — падтрымліваюць Расію, а палова — Украіну.

Я размаўляў з маладымі хлопцамі, апалчэнцамі. Гэта былі мясцовыя хлопцы, я іх ведаю. Пытаюся: «А за што вы выступаеце?» Яны кажуць: «Мы нацыяналізуем ЦЭС». — «Добра, а далей?» — «Будзем электраэнергію раздаваць». — «Добра, вугаль вам купіць трэба?» — «Трэба». — «Зарплату работнікам плаціць трэба?» — «Трэба». — «А дзе вы грошы возьмеце?» — «Насельніцтва будзе плаціць».

Хлопцы, кажу, вы ж нічога не разумееце. Электраэнергію нельга наліць у кубачак і панесці прадаваць. Станцыя або працуе пастаянна і выдае энергію, або не. А скончыцца ў вас вугаль, што будзеце рабіць?

А яны адказваюць: «Мы і шахты нацыяналізуем, тады будзе камунізм».

Узровень мыслення, вядома... Цяжка, калі такая прапаганда ідзе звонку. Думаю, менавіта ў ёй прычына канфлікту. А потым чалавек бярэ ў рукі зброю, і з ім ужо цяжка пра нешта гаварыць.

Яны на мосце стаялі, потым прыйшлі сюды. Кажу: «Чаго вы хочаце?» — «От, мы камп'ютар хочам, тое ды сёе». «Не аддам, — кажу. — Нам з мэрам трэба працаваць». Яны патапталіся-патапталіся і сышлі.

Сваю пазіцыю я лічу правільнай. Была адна ўлада, прыйшла іншая, а горад як жыў, так і жыве. Нармальна жыве, прынамсі ніхто, як у Луганску, у чэргах па ваду не стаяў. І ацяпленне больш чым на тры дні не адключалі. Добра мы рабілі ці дрэнна — гэта хай ацэняць гісторыкі. Толькі наўрад ці яны напішуць, як у нас рамонтнікі выязджалі рамантаваць драты пад абстрэлам. Як электрыкі ездзілі па мінным полі. З Луганскай ЦЭС ідзе тры высакавольтныя лініі, у тым ліку якія забяспечваюць сам Луганск. Першы раз іх парвала яшчэ ў жніўні, аднаўлялі ў кастрычніку. Для гэтага вайскоўцы разміміравалі «дарожку» шырынёй у 20 метраў, ні кроку ні ўлева, ні ўправа, толькі каб магла тэхніка прайсці. Зараз дзве лініі перабітыя падчас абстрэлаў, засталася адна — маламагутная. Для таго, каб іх аднавіць, трэба размініраваць мінныя палі вакол станцыі. Але калі іх размініраваць, будзе магчымасць наступу, як з аднаго, так і з другога боку. Акрамя таго, картаў мінных палёў проста няма, мініраваў як адзін, так і другі бок.

Міны — гэта праблема сур'ёзная, — уздыхае ён. — У жніўні электрыкі ездзілі на Станіцу-Луганскую аднаўляць лінію і проста на дарозе падарваліся на міне. Адзін чалавек загінуў, двое цяжка параненыя. Таксама былі параненыя два работнікі камунальнага прадпрыемства, калі рамантавалі трубу ацяплення. Але... Нашы рамонтнікі самі жывуць у гэтых дамах або па суседстве. Няма газу, няма вады — мерзнуць іх уласныя дзеці ці дзеці іх суседзяў... Рамантавалі... А што рабіць — хавацца па хатах?



Намеснік мэра Шчасця думае, што апалчэнцаў проста адурманілі.



Я асабіста ведаю аднаго з тых, хто страляў па нас у апошні дзень, перад перамір'ем. Гэта быў жыхар Шчасця, які сышоў ваяваць за ЛНР, — Буртак Ігар. Пасля мінамётнага абстрэлу ён патэлефанаваў свайму былому суседу і спытаў: «Ну што, атрымалі ад мяне прывет?»



### На лініі агню

Позні вечар у бальніцы, у тым крыле, якое занялі пад вайсковы шпіталь медыкі «Айдара». Мы рыхтуем вячэру на кухні разам з Андрэем Чарамскім — цывільным лекарам-анестэзіёлагам з абласной бальніцы Харкава.

Андрэй мяккі і спакойны, не падобны да медыкаў «Айдара», з іх злымі вачыма, абпаленымі вайной.

Ён ужо не першы раз у Шчасці. Час ад часу ён бярэ адпачынак і прыязджае ў шчасцеўскую бальніцу як валанцёр. Проста так, ва ўласны вольны час. Андрэй не адзін: у бальніцу прыязджаюць валанцёрамі хірургі і іншыя спецыялісты, якіх у Шчасці няма. «Свайго анестэзіёлага тут пакуль няма, — уздыхае Андрэй. — Была мясцовая жанчына-ўрач, але збегла летам. Яе муж уступіў у апалчэнне, стаяў на блокпосце побач з мостам, загінуў у перастрэлцы, калі айдараўцы бралі горад. А яна ўцякла.

У Вас там у Беларусі няма добрай англамоўнай літаратуры пра лячэнне посттраўматычнага сіндрому? — пытаецца ў мяне Андрэй. — Мы ж пра гэта нічога не ведаем. Нават псіхіятры не ведаюць. Яны з такім ніколі не сутыкаліся — «афганскі сіндром» у цэлай краіны. Трэба думаць, як з гэтым жыць пасля вайны.

Я думаю, можа мне перавучыцца? — кажа Андрэй. — Па сутнасці, посттраўматычнае расстройства — гэта той жа боль. Проста яго шмат».

* * *

У чарнільнай цемры за вокнамі чутная далёкая чарга. Дзесьці на тым самым блокпасту, на мосце праз Северскі Данец, працуе буйнакаліберны кулямёт.

«Ізноў па вожыках страляюць, — на кухню зазірае Улад Збароўскі, намеснік начмеда «Айдара». — Калі стаіш на блокпосце, ды яшчэ ў цемры, да сярэдзіны ночы пачынае з'язджаць дах. Лупіш па любым шоргаце, па любым цені. А, не, — ён прыслухоўваецца. — Чуеце, атветка?»

Я ўжо пачынаю адрозніваць: вось гэтая кулямётная чарга, якая чуваць слабей і як бы здалёку, — гэта «па нас».

Гулка бабахае танк недзе ў гэтым раёне. Усе сціхае. Праз паўгадзіны лямпачка ў нас над галавой міргае і згасае.

Мы з Андрэем запальваем у холе свечкі. Іх запас захоўваецца ў шафе, бальніца не першы раз застаецца без святла.

Начмед «Айдара», пазыўны Докі, мацюкаючыся, размотвае па калідоры кабелі і працягвае дрот у акно — у вайсковых медыкаў ёсць бензінавы генератар. У экстраных выпадках ён забяспечвае электрычнасцю аглядную, аперацыйную, хол і некалькі палат.

Мне кажуць, што на станцыі выйшаў з ладу і гарыць трансфарматар.

— Давайце трохі памаўчым і паслухаем рацыю, — прапануе Улад.

Медыкі, цывільныя і вайскоўцы збіраюцца ў холе. Патрэскваюць свечкі. Хрыпіць рацыя — будзённыя перамовы. Падобна, што па станцыі не стралялі, трансфарматар успыхнуў не з-за пападання.

— Усё ціха, — пазяхае Улад. — Вы як хочаце, а я пайшоў спаць.

Мы з Андрэем падымаемся на другі паверх, каб паглядзець з акна на ЦЭС.

На даху яшчэ нешта гарыць, але полымя невялікае і слабее з кожнай хвілінай.

Мы маўчым.

Унізе, у цемры, напружана маўчыць разам з намі горад Шчасце.

Горад на лініі фронту, звыклы да абстрэлаў і эсэмэсак з невядомага нумара: «Бяжыце, укропы, вам п***ц! Заўтра пачынаецца наступ!»

Горад, які ўжо заняў месца на старонках будучых падручнікаў гісторыі — на тых старонках, куды ніхто не хацеў бы трапіць — там, дзе чырвоныя стрэлачкі паказваюць кірунак імавернага ўдару.

Горад, які выжыў.

# Журы літаратурнай прэміі «Дэбют» прыняло нечаканае рашэнне

Пераможцамі сёлета сталі **Палачанскі і Нядбай**. Кожны з лаўрэатаў атрымаў чэк на 30 млн рублёў.

24 сакавіка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску прайшло ўручэнне прэміі для маладых пісьменнікаў «Дэбют». Пераможцамі ў намінацыях «Проза» і «Паэзія» сталі, адпаведна, Аляксей Палачанскі і Тацціяна Нядбай.

Шорт-ліст прэміі быў абʼяўлены напачатку сакавіка. У намінацыі «Проза» туды трапілі кнігі апавяданняў Віталя Воранава «Шэптам», Аляксея Палачанскага «Мой цвік», а таксама выданне Рамана Свечнікава з першай часткай дзённікаў падарожніка «Рома едзе».

Зала Літаратурнага музея Максіма Багдановіча была поўная. Пасля прамовы-адкрыцця прэміі ад Андрэя Хадановіча слова ўзяў яе фундатар — мецэнат Павел Берагові́ч. Усхвалявана ён паведаміў, што ў гэтым годзе журы працавала ў новым фармаце, і ён вельмі рады, што вынікі прэміі абвяшчаюцца менавіта ў музеі беларускага класіка, імем якога яна і названа.

Сяброўка журы прэміі, загадчыца музея імя Максіма Багдановіча Марына Запартыка, прывітала ўсіх удзельнікаў і сказала, што ўручэнне такой прэміі ў будынку музея павінна стаць добрай традыцыяй.

Удзельнікаў шорт-ліста прэміі «Дэбют» абʼявіў Андрэй Хадановіч. Урыўкі са сваіх кніг першымі выйшлі прачытаць празаікі.

Рома Свечнікаў не стаў чытаць урыўкаў, а распавёў (па-руску) кароткія гісторыі з падарожжаў, падзякаваў за вылучэнне ў шорт-ліст і сказаў, што ніхто з настаўнікаў ніколі не паверыў бы, што ён напіша кнігу, бо вучыўся дрэнна.

Андрэй Хадановіч пажадаў яму адкрываць для сябе новы досвед, а найперш досвед размовы на беларускай мове.

Канверт з іменем пераможцы ў намінацыі «Проза» распячатаў Барыс Пятровіч. Там было напісана два словы — Аляксей Палачанскі. Хоць напярэдадні ўсе прагназавалі, што ўганараваны будзе Свечнікаў.




Мецэнат Павел Берагові́ч прэзентуе грашовы сертыфікат на 30 мільёнаў.

Аляксей Палачанскі атрымаў першую ў сваім жыцці літаратурную прэмію.

За атрыманне прэміі ў намінацыі «Паэзія» змагаліся Тацціяна Нядбай са сваёй дэбютнай кнігай «Сірэны спяваюць джаз», Антон Рудак са зборнікам «Верхні горад» і Юлія Цімафеева з «Кнігай памылак».

Пераможцу ў гэтай намінацыі абʼявілі Уладзімір Арлоў і Павел Берагові́ч. Арлоў казаў, што рашэнне далося вельмі цяжка, бо ўсе кнігі аўтараў-намінантаў «вельмі доўга і асцярожна ўзважваліся». У выніку ў распячатаным канверце было напісана імя Тацціяны Нядбай. На ўручэнне дыплома і сертыфіката яна выйшла ўзрушанай. Ізноў жа, «гуру» напярэдадні схіляліся да таго, што шанцы Рудака вышэйшыя.

Тацціяна Нядбай — тонкі лірык, у творах якой спалучаюцца наватарства і традыцыяналізм.

Арганізатары прэміі ў гэтым годзе не вызначылі пераможцаў у намінацыі «Пераклад».

Сёлета ў склад журы ўваходзіла 7 чалавек: Уладзімір Арлоў, Павел Берагові́ч, Алена Гушча, Марына Запартыка, Алесь Пашкевіч і лаўрэаты прэміі «Дэбют» 2013 года — перакладчыца Кацярына Мацієўская і паэт Уладзь Лянкевіч.

Кожны з лаўрэатаў прэміі атрымаў прызы ў выглядзе чэкаў ад дабрачыннага фонду «Вяртанне», які зарганізаваў Павел Берагові́ч.

**Тэкст і фота Сяргея Гудзіліна**

**Штогадовая прэмія «Дэбют»**

была заснаваная ў 2010 годзе Беларускім ПЭН-цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы бізнэсоўца Паўла Берагові́ча. Прэмія ўручаецца аўтарам, якім не больш за 35 гадоў, за найлепшыя дэбютныя творы ў жанрах прозы, паэзіі і мастацкага перакладу. Пераможцамі прэміі ў мінулыя гады ў розных намінацыях былі Віктар Марціновіч, Віталь Рыжкоў, Андрэй Адамовіч, Юлія Шарова, Ганна Янкута, Глеб Лабадзенка, Кацярына Мацієўская і іншыя.

## Аляксей Палачанскі. **Мой цвік**

Апавяданне.



У мяне ёсць цвік. Я знайшоў яго аднойчы, калі шукаў пульт ад тэлевізара. У той дзень я ляжаў на канапе, як звычайна, апусціўшы руку ў міску з семкамі, праглядаў усё, што мне паказвалі: надвор'е, навіны, серыялы. Але ўсё гэта ліпла да мяне, назапашвалася ўсярэдзіне, каб аднойчы там скончылася вольнае месца, як на дыску. І калі гэта адбылося, я не змог больш нічога ўспрымаць і пачаў ліхаманкава шукаць пульт. Ім даўно ніхто не карыстаўся, я знайшоў яго пад канапай, запылены, у парванай плёнцы. Я стаў на калені і памкнуўся ўзяць яго, але тут жа здрыгануўся — нешта балюча ўкалола палец. Асцярожна я выцягнуў з-пад ложка доўгі іржавы цвік — сантыметраў на дзесяць.

Я сеў на канапу і круціў яго ў руках, мне было прыемна гэта рабіць, адчуваць форму, даўжыню, шурпатасць іржы. Я прагнуў дзейнасці. Пустэча перапаўняла мяне — я з змог адчуць гэта адразу, як выключыў тэлевізар. Цішыня была нязвыклай, крыху бянтэжыла, у ёй я адчуваў сваю бескарыснасць. Я быў чалавек без справы, без дасягненняў. Не было нічога, думкі аб чым прынеслі б мне задавальненне, акрамя, мабыць, майго цвіка. Гэта быў мой адзіны інструмент, і я пачаў думаць, што мне з ім зрабіць.

Напэўна, менавіта ў той момант я вырашыў змяніць сваё жыццё, пакінуць нейкі след сваім нашчадкам, прынесці карысць грамадству. Я стаў свядомым чалавекам.

Так я выправіўся ў падарожжа з адным цвіком у руках. Гэта быў пераломны дзень у маім жыцці, я вырашыў стаць лепшым, высакародныя намеры ўзносілі мяне ў завоблачныя вышыні, я верыў у сябе, верыў у будучыню і ў штосьці яшчэ. Вырваўшыся са сваёй кватэры, з гэтай клеткі, у якой згасае паэтычнасць чулай натуры, я адчуваў сябе здольным на многае, выпростаўшы спіну, убачыў перспектывы, гарызонты расхінуліся, ва ўсе бакі разыходзіліся промні майго натхнення, рознакаляровай чарадой брылі магчымасці, як караван з невераго́днай казачнай краіны, а наперадзе раскінула свае ўсеабдымныя крылы мая грандыёзная будучыня. А над усім гэтым клічнікам узвышаўся мой цвік, як знак свабоды альбо перамогі.

Перш за ўсё я пайшоў на будоўлю, каб паказаць свой цвік, аддаць яго на карысць грамадства. Доўга шукаць не давялося, я адразу выйшаў на нейкую перспектыўную будоўлю, з планамі на шчаслівыя сем'і і дзетагадоўлю. Мне адразу захацелася быць датычным да гэтага, і я звярнуўся да будаўніка. Але ён толькі лаяўся, крычаў, а пасля паклікаў сваіх сяброў, і яны адправілі мяне ў краму. Але ў краму я не пайшоў, бо разумеў, што дабра з гэтага не будзе і рэалізавацца мне там будзе цяжка.

Няўдача мяне не збянтэжыла, і я пайшоў далей, бо які ж ты чалавек, калі пасуеш перад няўдачамі.

Я ўвайшоў у лес і знайшоў там гурму маладых людзей, якія нешта ладзілі між дрэў з вяровак і жэрдак. Падышоў да іх і запытаў: «Хлопцы, ці патрэбны вам цвік? Здаецца, для вашых буданоў ён быў бы вельмі дарэчы». Хлопцы нейк дзіўна паглядзелі на мяне, а старэйшы з іх адказаў: «Мы — скаўты. Мы будуем жыллё без цвікоў».

Я зразумеў і пасунуўся далей.

Я прыйшоў да паэта: ён сядзеў на крэсле, нага на нагу. У выцягнутай руцэ ён трымаў кніжку, у якую штохвілінна зазіраў, у другой нешта дымілася. Выразам твару ён быў нейкі абыякавы, а сам сабой нагадваў пытальнік. «Хочаш цвік?» — адразу прапанаваў я. Але ён зірнуў на мяне ды павольна расплыўся ва ўсмешцы. Адзін цвік у яго дакладна ўжо быў.

Мяркуючы па ўсім, на ім ён і сядзеў. Праходзіў паўз нейкую вёску і ўбачыў, як дзед гародзіць плот. Тут без цвікоў дакладна не абыдзіся. Я сказаў яму пра гэта, і ён паглядзеў на мяне, нібы згаджаўся, але раптам пачаў завальвацца набок, хрыпець, пасля нечакана рушыў на мяне і працягнуў руку для апоры, але я адступіў, і ён упаў ніцма.

Я крыху счакаў і, пераканаўшыся, што яму мая дапамога таксама не патрэбная, самотна пасунуўся далей.

Шмат дзе яшчэ я спрабаваў прыладзіць свой цвік і знайсці яму месца. Спрабаваў прадаць яго і ўсё зніжаў цану, але ніхто нават не падыходзіў. Хацеў здаць у металалом — і там не атрымалася. Нават прапаноўваў аддаць у краязнаўчы музей у якасці экспаната. Нідзе не меў я поспеху.

Мяне апанавала крыўда. Няўжо, няўжо я нічога ніколі не дасягну? Няўжо я не змагу дапамагчы грамадству і маё імя не ўвойдзе ў гісторыю?

Я ўжо вяртаўся, змаркочаны, дадому, як апынуўся побач з нейкім узгоркам і заўважыў на ім мітусню. Я падняўся на вяршыню і ўбачыў, як некалькі жаўнераў завіхаліся вакол чагосьці, не бачнага з-за шчыльнага натоўпу. Адзін з іх павярнуўся і заклапочана выгукнуў: «Ці ёсць у каго цвік?!» Я адразу ўскінуў руку і радасна азваўся: «Тут!» Людзі пачалі хвалявацца, пераглядацца ў няпэўнасці, твары іх спалатнелі. Жаўнер падышоў да мяне і бесцырымонна выхапіў цвік з маёй рукі. Я чакаў, што ён нешта скажа, а потым сам хацеў штосьці сказаць, але. падумаўшы, прамаўчаў. Пэўна ж, жаўнеры ведаюць, што робяць.

Усё ж такі мне было цікава, для чаго ўрэшце прыдаўся мой цвік, і я спытаў у аднаго з мінакоў: «А што гэта за месца?» — «Галгофа», — адказаў ён, адводзячы позірк убок, і хутка дакрочыў уніз па схіле.

І я ішоў далей, у шырокі свет, пакінуўшы свой дом дзесьці ззаду. Мой цвік знайшоў сваё месца, і, магчыма, гэта была і не вельмі вялікая справа, але я веру, што дапамог змяніць свет да лепшага.

Я іду, іду далей, высока ўзняўшы галаву, іду змяняць свет!



## Тацціяна Нядбай

* * *

агульны вагон кругасветнага цягніка,
пашанцавала — дэмбель сёння не едзе.
большасць — жанчыны з гадаванцамі на руках,
гушкаюць іх і ад сну ратуюцца ледзьве

лета, але прахалода льне да пляча,
агні начных краявідаў не саграваюць.
ляжу на драўлянай лаўцы, мяне атачаюць галасы, разгойдваючыся, з краю

суседняй лаўкі долу звісае плед —
не тое, што я — пастаянныя пасажыры.
ляжу на лаўцы, а ў галаве — след
героя ў Камю ў каланіяльным Алжыры.

недзе побач гавораць пра даўжыню гуркоў —
мая мама, пэўна, параіла б ім насенне,
пагаварыла б пра зёлкі, і як ачышчаецца кроў
народнымі сродкамі, і што азначаюць сненні.

далей абмяркоўваюць батарэі і печнікоў —
тата сказаў бы, што лепш для цяплаізаляцыі,
пасля — пра рыбу, вуды і якасць кручкоў,
а я ляжу, заклапочаная праблемамі нацыі.

я прыеду да іх, абдыму, падміргну кату,
на адной канапе паслухаем тэлевізар.
яны рты адкрываюць, як рыбы, а я тут
так намала, што нават не разбіраю валізаў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

З надыходам цяпла на Свіслач у Мінску зляцеліся чароды чаек, якія апанавалі ўсю набярэжную ля Траецкага прадмесця.



Зборная Беларусі па футболе атрымала першую за пяць гадоў гасцявую перамогу. Нашы хлопцы былі мацнейшымі за македонцаў — 2:1. На фота: аўтар першага беларускага гола ў сустрэчы Цімох Калачоў. Дарэчы, на гульню беларусы выйшлі ў новай форме. І прозвішчы на майках нарэшце напісаныя транслітарацыяй з беларускай мовы.




У Бабры (Крупскі раён) Дзень Волі адзначылі пленэрам, які зладзіў мастак Алесь Пушкін.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

27 сакавіка прайшла першая ў гэтым годзе «Крытычная маса». Каля 200 раварыстаў сабралася на пляцоўцы каля Тэатра оперы і балета і праехала калонай па вуліцах сталіцы. Мэты «Крытычнай масы» — прасоўванне веласіпед як транспарту, папулярызацыя здаровага ладу жыцця, барацьба за правы веласіпедыстаў на дарозе.

## Анекдоты і жарты

* * *

Пацыент у псіхолага:

— Мне здаецца, што мяне ніхто не разумее: пустыя вочы, абыякавасць на тварах і абсалютнае нежаданне слухаць.

— А чым вы займаецеся?

— Выкладаю квантавую фізіку ва ўніверсітэце.

* * *

Самым дзейсным спосабам падтрымаў мінскі электрык Пятровіч акцыю «Гадзіна Зямлі», пераблытаўшы фазы на падстанцыі і пакінуўшы без святла ўвесь раён.

* * *

Аб'ява: «Знаходжу край скотча. Нядорага».

* * *

Кнопка «Ачысціць гісторыю» ў інтэрнэт-браўзэрах выратавала больш сем'яў, чым псіхолагі.

* * *

— Забудзься на ўсё, чаму цябе вучылі ў інстытуце.

— Я не вучыўся ў інстытуце.

— Тады ты нам не пасуеш: нам патрэбныя людзі з вышэйшай адукацыяй.

* * *

Мне ўжо хутка 41 год, а я да гэтага часу не ведаю, кім хачу быць, калі вырасту.

* * *

— Саламон Абрамавіч, вы заўважылі, калі я мыюся і ўключаю газавую калонку, то лічыльнік неяк дзіўна рыпае?

— Гэта не лічыльнік, Роза Маркаўна, гэта так сэрца маё рыпае!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Страшэнная паводка ў Мінску.** З раніцы 25 марца пачала быстра падымацца ў Свіслачы вада. К паўдню ў нізкіх часцях горада рака, выйшаўшы з берагоў, змыла масты і затапіла вуліцы, падворкі і сялібы. Заліло вадой, болей-меней, 400 з лішнім будоўляў, шмат крамаў, майстэрняў, фабрык. Паводкай заліло і электрычную водаправодную станцыю, так што ўночы не хапала ў горадзе святла і вады для піцця.

**«НН». №13. 1915.**

**Памёр папа Ян Павел II.** «Каб асэнсаваць вялікую духоўную спадчыну папы, патрабуецца шмат часу. Ян Павел II быў чалавекам вялікіх здольнасцяў, ён адчуваў вельмі вялікую адказнасць за сваё пакліканне. Ён, як ніхто іншы, меў вялікія здольнасці да камунікацыі з людзьмі. Ягоная навука была ўніверсальнай для ўсіх. Для яго былі ўсе аднолькавыя — усе дзеці божыя, і хрысціяне, і нехрысціяне», — гаворыць апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа айцец Аляксандр Надсан.

**«НН». №13. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 31.03.2015.
Замова №1165.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15013